
Лета ў Студзіводах → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714


З каровай за Дубровай → 9

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 32 (3143) Год LXI | Беласток, 7 жніўня 2016 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)



# «Прымацкая» бяседа з сябрамі

**Гарадок вітаў музыкай, віталі музыкай госці. Ледзь тыдзень пасля «Басовішча» ў мокрае лета 2016 года. На XVII Сяброўскай бяседзе. На гэты раз надвор'е над Гарадоцкай гмінай не падвяло, хаця ў Беластоцкім павеце ўсюды сыпапуў шчодры лівень. На ўрочышчы Барык музыкі рэзалі ад вуха да вуха і кусалася бязгучная камарня.**

— *А як не прыходзіць у Барык старынны? Ён для ўсіх ласкавы, прыхільны, быццам свежая вада! Нашая „Бяседа" адзіная, бясцэнная, і думаю, што роўных у свеце ёй няма!* — пісала Галена Ляховіч, лаўрэатка другога месца ў конкурсе на верш пра мерапрыемства. І жартавала словамі свайго героя: — *Я тым часам слухаў канцэрту з бутэлькай, усіх калектываў так і не змог палічыць...* Бо і сапраўды — сам пералік фальклорных гуртоў і салістаў гэтага міжнароднага фестывалю заняў бы старонку, а хаця выконвалі найчасцей адзін «нумар» (госці па тры), сам галоўны канцэрт працягваўся сем гадзін. А гледачы ішлі ды ішлі ў адзін бок, і ўвесь час — на славутую паляну, дзе гучала беларускае слова і вядомая сэрцу музыка.

Беларускія фэсты бывалі тут раней, ужо бадай 52 гады таму, кожны год беларускія, бяседна-застольныя. Цэлымі сем'ямі прыбывалі гарадчане і іх госці, з пледамі і кошычкамі, на славутую паляну паміж карабельнымі соснамі. І цяпер гэта беларускі пікнік, хаця шматтысячны, шматпакаленны. Калі дырэктарам ГЦК стаў Юры Астапчук, у 2000 годзе, прыдумаў, супольна з Беларускім таварыствам, каб рабіць народную сустрэчу калектываў, у сяброўскім стылі. Колішнія фэсты былі досыць сярмяжныя, цяпер гэта сапраўды міжнародны агляд беларускай фалькавай песні. «Сяброўская бяседа» мае пастаянных гледачоў і слухачоў, удзельнікаў, якія прыязджаюць кожны год, не толькі з Гарадоччыны, Беласточчыны, але і з далёкага замежжа. Дакладваюцца да гэтай багатай сустрэчы таксама шматлікія спонсары, для якіх, пэўна, дарагая беларуская культура, але для якіх удзел у такой шматлюднай імпрэзе з'яўляецца выдатнай рэкламай іхняй дзейнасці. Сам пералік запрошаных уладных гасцей — кіраўнікоў суседніх гмін, дзеячаў культуры з Польшчы і Беларусі, чыноўнікаў па справах меншасцей, самаўрадаўцаў заняў не адну хвіліну... Фестываль з'яўляецца добрым месцам для ладжання супрацоўніцтва паміж калектывамі, гмінамі, мясцовасцямі. І адсядзець уладам прыходзіцца ў першых радах, пад найбольшай напругай пырскаючых феерверкаў — аднаго з сімвалаў сустрэчы. Гэй, сяброўская бяседа — гуляць трэба нам! Сёлета вясёлкавых халодных агні, канфеці і стужкі асабліва буйна рассыпаліся перад і над сцэнай, калі адсвяткоўвалі дваццацігоддзе «Прымакоў».

— Сяброўская бяседа з'яўляецца адной з важнейшых падзей у міжнародным маштабе, якая прадстаўляе культурную спадчыну рэгіёна і народную творчасць з асноўным акцэнтам на культуру беларускай меншасці. Мерапрыемства мае форму канцэрта ў спалучэнні з агульнай гульнёй, якая аб'ядноўвае выканаўцаў і гледачоў, — распавядае галоўны «прымак», дырэктар ГЦК **Юрка Астапчук**, ужо ў новым, амарантавым строі, «рызах з прыбамбасамі» — як сказалі захопленыя слухачы, якія не шкадавалі сілы і шчыра «ляпалі ручкамі ўгары». — Апрача добрай забавы сустрэча дазваляе маладым людзям даведацца пра багацце мясцовага фальклору і рэгіянальных традыцый, неабходных для вызначэння нацыянальнай ідэнтычнасці, а ўсёй супольнасці — спазнанне супольных каранёў, вяртанне да традыцыі і ўсведамленне неабходнасці дбання пра яе для будучых пакаленняў. Сёлета мерапрыемства спалучана з юбілеем «Прымакоў», якія выводзяцца з Гарадоцкай гміны. У нашым рэпертуары маем эстрадныя выкананні народнай музыкі на беларускай, украінскай, рускай і польскай мовах, а таксама аўтарскія кампазіцыі. На працягу дзейнасці выступалі мы ў многіх рэгіёнах Польшчы і за мяжой, сярод іншага, у Беларусі, Славакіі, Эстоніі, Бельгіі, Літве і Латвіі, а таксама ўдзельнічалі ў шматлікіх дабрачынных канцэртах.

У ходзе мерапрыемства, апрача выступленняў калектываў і народных артыстаў, прайшлі конкурсы: літаратурны на верш пра «Сяброўскую бяседу» (вершы напісаныя выключна па-беларуску), на самыя смачныя рэгіянальныя стравы, на самы прыгожы каравай, прывезены калектывамі, супольна смажыліся верпучкі. Удастоілі мерапрыемства выступы зорак з Беларусі, між іншым арт-групы «Беларусы», «Неруш» (Мінск), «Белы птах» (Мінск), «Крупіцкія музыкі» (Крупіца), «Крышталікі» (Бярозаўка) і «Гомій» з Гомеля. З Падляшскай актавы культур прыехаў ансамбль песні і танца «Fili Camarasului» (Румынія). Далі фестывальная канцэрты гурты з Падляшша, сярод іншага, «Зорка», „Лайланд", «Сказка» і «Метро». Вядучымі мерапрыемства была каманда «Прымакі» з Гарадка, якая засела за славутым родным сталом разам з маладымі творцамі, між іншым, «сынком Радзікам» (Радаславам Кулешам) і «ўнучкай Оляй» (Аляксандрай Яроцкай) і «ўнучкам Адрыянам» — Данілюком.

На мерапрыемства можна было дабрацца з Беластока «выхадным цягнікам», маляўнічым маршрутам праз Кнышынскую пушчу. Цягнік Беласток — Валілы 30 ліпеня ехаў двойчы туды і назад. З Беластока выязджаў у 9.00 і 17.17., выехаў назад у 23.07., усё ж няпоўны, бо большасць гледачоў засталася гуляць да канца бяседы. Але ехаўшы назад апоўначы гудзеў ад свойскіх песень, з якіх двойчы паўтаралася толькі «Смэрэка». Што цікава, спявалі гэтыя песні маладыя асобы, з якіх большасць тыдзень таму наведала таксама і «Басовішча».

— Адкуль яны ведаюць усе словы, усе страфы песень? — дзіваваўся пан Мікалай з групкі трохі старэйшай, які стараўся падпяваць моладзі «бяседным» голасам, але пасля пару хвілін спыняўся, бо не быў у змозе працягнуць за моладдзю ўсю старадаўнюю песню да канца.

Міжнародны фестываль «Сяброўская бяседа» ўпершыню ў гісторыі можна было глядзець у прамым эфіры (анлайн) з усіх куткоў Польшчы і свету праз партал transmitujemy.pl. Рэалізаваны быў дзякуючы гранту Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі. Арганізатары: Гарадоцкая гміна, Гмінны цэнтр культуры ў Гарадку, Беларускае грамадска-культурнае таварыства ў Беластоку. Медыяпартнёры: Тэлебачанне Беласток, Радыё Беласток, Радыё Orthodoxia, Wrota Podlasia, BiałystokOnline.pl, Transmitujemy.pl, «Wiadomości Gródeckie — Гарадоцкія навіны» і «Ніва».

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**







# У Беларусі ідуць выбары

Хацелася напісаць, што ідуць выбары ў Парламент. Але правільна гэты працэс называецца выбарамі ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь шостага склікання. Назва доўгая, але хіба што цалкам адлюстроўвае той орган, які будзе сфарміраваны пасля таго, як Цэнтральная выбарчая камісія агалосіць вынікі падліку галасоў.

Зрэшты, тым беларусам, якія хоць крыху цікавяцца гэтай з'явай, чакаць рашэння ЦВК неабавязкова. Ужо няраз, задоўга да таго, як першы бюлетэнь зваліцца ў скрынку для галасавання, на старонках незалежнай прэсы друкуецца поўны склад будучых дэпутатаў. І складальнікі гэтага спісу не памыляюцца нават у межах статыстычнай пагрэшнасці.

І гэта зусім не таму, што ім удалося расшыфраваць невядомыя дагэтуль прадказанні знакамітага Мішэля Настрадамуса па будучыні Беларусі, калі такія ўвогуле існуюць. І зусім не таму, што яны звяртаюцца па дапамогу да якіх-небудзь сучасных экстрасэнсаў ды прадказальнікаў. Проста ў нас усё настолькі ясна, што і да бабкі хадзіць не трэба.

У Беларусі ідуць выбары! Хацелася напісаць, што ідуць поўнай ходай, бо ўжо і акруговыя камісіі сфармаваныя, і ўчастковыя таксама, і ініцыятыўныя групы прэтэндэнтаў у кандыдаты ўжо подпісы сабралі, і ў пікетах адстаялі...

Ды і да самога галасавання, якое прызначанае на адзінаццатага верасня, зусім нічога засталося. Але вось мноства беларускіх выбаршчыкаў так яшчэ і не змаглі зарыентавацца, што тут урэшце адбываецца. Ты іх пытаеш пра іх жа выбары, а тыя пытаюць у цябе: а што гэта за яны такія?

Зрэшты, калі іх жа, тых самых беларусаў, спытацца пра выбары ў ЗША, то складаецца такое ўражанне, што яны там жывуць. Яны падрабязна распавядуць і пра Хілары Клінтан, і пра Дональда Трампа, паразважаюць пра іх асабістыя і прафесійныя якасці, зробяць пэўныя высновы пра тое, што будзе з Амерыкай і астатнім светам пры прыходзе там да ўлады таго ці іншага кандыдата.

А вось калі іх пытаеш пра тое, хто з'яўляецца непасрэдна яго дэпутатам, то большасць нават і блізка прозвішча ўспомніць не можа. Ні таго, хто выйграў, ні таго, за каго галасавалі.

Хіба што лічаць, што ад тых дэпутатаў ні іх асабістае жыццё, ні працэсы глабальнага характару не залежаць. А вось ад Трампа ды Клінтан — залежаць. І іх асабісты беларускі лёс, як гэта не парадаксальна гучыць, залежыць. Таму і ведаюць тых, а не гэтых.

У самой Беларусі таксама ведаюць аднаго таго, ад каго нешта залежаць. А астатнімі памяць забіваць не лічаць патрэбным.

Ну, калі выбары на ўнутраныя працэсы здаецца слаба паўплываюць, дык можа хоць будуць мець уплыў на вонкавыя? Але не туды тое. Міжнароднае прызнанне гэтых выбараў з усімі выцякаючымі адсюль наступствамі аніяк не будзе залежыць ад таго, як яны пройдуць. Рашэнне пра нейкай ступені прызнанне, на маю думку, ужо прынятае.

Ды яно і непатрэбнае нікому, па вялікім рахунку, тое афіцыйнае прызнанне. Супрацоўніцтва з беларускай уладай даўно ідзе па ўсіх важлівых кірунках. А апазіцыя ўсяго толькі разменная манета ў руках абодвух бакоў.

Зрэшты, некаторыя маладыя еўрапейскія палітыкі не тое што забыліся, але хіба проста не ведаюць, або з-за сваіх бягучых кароткатэрміновых інтарэсаў проста не хочуць ведаць, што толькі цвёрдая палітыка Рональда Рэйгана і Маргарэт Тэтчар, тая палітыка, якая ў першую чаргу ніколі не прадавала сваіх духоўных аднадумцаў з Усходняй Еўропы, і прывяла да рэальных перамен і зрабіла свет больш бяспечным. Ну то могуць, калі не ведаюць, спытаць пра тое ў ветэранаў „Салідарнасці" ці іншых тагачасных арганізацый у залежнасці ад краіны. Ды халера з імі. Вернемся лепш да выбараў у Беларусі.

Здавалася б, які сэнс, але беларусы галасаваць усё адно пойдуць. Гэта як у тым старым анекдоце, калі сядзяць два так моцна падпітыя мужчыны, што ажно лыка не вяжуць. І адзін у другога ледзьве чутным і дрыжачым голасам пытае:

— Ты яшчэ выпіць гарэлкі хочаш?

— Не, — адказвае другі. — Больш не хачу.

— А піць будзеш?

— Так! — цяжка ўздыхае той. — Канешне, буду!

Віктар САЗОНАЎ

# Ёсць бізнес



З часу апошняга эканамічнага крызісу ў Беларусі мінула ўсяго паўтара года. Мела быць лепш, і ёсць так... як ёсць. За гэты час долар у адносінах да беларускай валюты павялічыўся ў два разы, а сярэдняя заработная плата знізілася з 620 да 350 долараў. Да таго ўлады мусілі з 1 ліпеня ў трэці раз у гісторыі дэнамінаваць рубель. На гэты раз на чатыры нулі. Аднак беларускі прэзідэнт кажа з упэўненай верай, што ў краіне няма крызісу. А як у рэальнасці? Бягучы доўг Беларусі складае амаль 36 млрд. долараў. Інфляцыя няўхільна паглыбляецца і сёння з'яўляецца самай высокай у Еўропе. Цэны прадуктаў і паслуг з пачатку года выраслі на 7,5%. Для параўнання, ва Украіне, якая знаходзіцца дэ-факта ў стане вайны з Расіяй і расстроеная ўнутранымі канфліктамі, гэта толькі каля 4,9 працэнта. Акрамя таго, кожнае чацвёртае дзяржаўнае прадпрыемства — а дзяржаўная ўласнасць з'яўляецца асновай беларускай эканомікі — стратнае. Страты рэфінансуе ўсё больш запазычаная дзяржава. І кожная другая фірма паказвае ледзь нулявы баланс, прытым ад многіх гадоў. Гэта абазначае, што наступае іх самазжыранне. Гэта дасягаецца за кошт паступовай рэкапіталізацыі, зніжэння канкурэнтаздольнасці на рынку і, нарэшце, не маючых дачынення да прадукцыйнасці і эфектыўнасці, але гарантаваных дзяржавай, зарплат. На самой справе, трэба было б стратныя заводы ліквідаваць ці правесці іх грунтоўную рэструктурызацыю. Дазвольце мне нагадаць, што гаворка пра кожнае другое, паводле паявярхоўных ацэнак, прадпрыемства! Гэта спалучалася б, вядома, з масавымі звальненнямі, масавым беспрацоўем, беднасцю і сацыяльнымі хваляваннямі. Але гэтага прэзідэнт Лукашэнка не можа сабе дазволіць — паколькі больш ён клапоціцца пра захаванне ўлады, а не Беларусі. Акрамя таго, ён абяцаў росквіт нацыі. А народ моўчкі, абяцаў яму любоў і лаяльнасць. Вось, такія ўзаемныя цацанкі-абяцанкі!

Калі гаворка пра прэзідэнта, то рэформ або якіх-небудзь палітычных змен ён не дапусціць, думаючы, што народ і так яму даруе. У любым выпадку, стырно ўлады, як спраўны вазак, трымае ён моцна ў кулаку, а і пугу не выпускае з рук. Але пернікам можа таксама памахаць. Ніадаўна суайчыннікам, занепакоеным паглыбляючымся эканамічным спадам, паведаміў, што «паставіў перад органамі дзяржаўнай улады задачу зніжэння сабекошту прадукцыі дзеля павышэння канкурэнтаздольнасці». Гэта значыць канкурэнтаздольнасць паміж неканкурэнтаздольнымі дзяржаўнымі прадпрыемствамі?

Беларуская эканоміка часу Лукашэнкі заўсёды стаяла на расійскай нафце. Беларусь яе купляла танна ў Газпрама — каля 22 млн. тон у год, а пасля перапрацоўкі рээкспартавала з вялікай выгадай. Аднак ад часу, калі нафта рэзка патанннела, а Газпрам устанавіў новыя цэнавыя ўмовы, блізкія да камерцыйных, Беларусь страціла магутную крыніцу доларавых даходаў, дзякуючы якім латала бюджэтныя дзіры.

На думку аналітыкаў рэйтынгавага агенцтва Fitch, рэальны ВУП скароціўся ў Беларусі ў 2015 годзе на 3,9 працэнта, а сёлета, хутчэй за ўсё, наступіць далейшае зніжэнне — на каля 1 адсотак. Гэтая ацэнка драматычная! Акрамя таго, тры асноўныя беларускія банкі вінаваты шматмільярдныя сумы, у асноўным у доларах. А да іх краіна мае вельмі абмежаваны доступ з моманту высыхання нафтавай крыніцы. Лукашэнка пазычае іх дзе дае рады. З Захаду, ад МВФ і Сусветнага банка не можа, паколькі адмовіўся ад дэклараваных рынкавых рэформ. Звярнуўся на Усход. За апошнія шэсць месяцаў узяў больш чым мільярд долараў крэдытаў. У апошні час 300 мільёнаў долараў, абяцаных яму з Еўразійскага фонду стабілізацыі і развіцця. Належаць да яго Беларусь, Казахстан, Расія і сёння тузаная ўнутранымі канфліктамі Арменія. Расія, вядома ж, яго галоўны фундатар, і заадно атрымальнік. Таксама палітычны бенефіцыянт. Папраўдзе задоўжаная Беларусь для яе гэта ніякі бізнес. Але Беларусь на павадку даўгоў — чаму ж і не. Асабліва, калі беларускую бяду паставіць на галаве Лукашэнкі, а справы беларускай дзяржавы возьмуць у свае лапішчы апрычнікі Пуціна. Прытым анексія Крыма гэта малы гібрыдны гешэфт.

Міраслаў ГРЫКА



Сваімі вачыма

# Праваслаўныя эндэкі

Падляшша на фоне ўсёй краіны з'яўляецца рэгіёнам са стабільнымі, моцнымі кансерватыўнымі поглядамі большасці яго жыхароў. Тут пасля перамен 1989 года цэнтра-правыя партыі набіраюць найбольшую колькасць галасоў, сваіх прадстаўнікоў маюць не толькі ў парламенце. Самаўрадавае жыццё ваяводства таксама блізкае да поўнай іхняй дамінацыі. Вельмі выразна відаць гэта ў заходняй часткі ваяводства ў ваколіцах Ломжы ці Высокага-Мазавецкага. Таму дзяжурнай тэмай журналістаў пасля кожных парламенцкіх ці самаўрадавых выбараў з'яўляецца вандроўка ў гэтыя ваколіцы, паколькі тут правыя атрымліваюць амаль стопрацэнтную перамогу і такая навіна добра прадаецца ў агульнапольскіх медыях. Няйначай было і ў міжваенны перыяд. Заходняя частка тадышняга Беластоцкага ваяводства стала аазісам і бастыёнам нацыянал-дэмакратычнага руху, заснавальнікам і духоўным бацькам якога быў Раман Дмоўскі. Дарэчы, ён сам у 1937 г. пасля хваробы пераязджае жыць у Драздова каля Ломжы і тут памірае на пачатку студзеня 1939 года. Нацыянал-дэмакраты, званыя ў скарачэнні эндэкамі, на працягу сваёй гісторыі сваю палітычную лінію выбудоўвалі між іншым на праграме поўнай асіміляцыі нацыянальных меншасцей і на эканамічным з імі змаганні, асабліва з жыдамі. Гэта з часам прывяло да адкрытага антысемітызму многіх груповак гэтага руху. У адрозненні ад пілсудчыкаў, эндэкі вельмі моцна спасылаліся на Каталіцкі касцёл і сваю пазіцыю ў грамадстве будавалі ў блізкім супрацоўніцтве з парафіяльнымі структурамі. Менавіта эндэцкая канцэпцыя падзелу Беларусі і Украіны лягла ў аснову рыжскай дамовы, заключанай у сакавіку 1921 года паміж Польшчай і Савецкай Расеяй. Лічылі яны, што слабыя славянскія меншасці — беларуская і ўкраінская — дзякуючы дзяржаўнай палітыцы вельмі хутка будуць поўнасцю спаланізаваны. У 1930-х гадах ідэю эндэкаў наконт асіміляцыі пераняялі і рэалізавалі пілсудчыкі. Элементы гэтай палітыкі відавочныя былі і ў дзеяннях пасляваеннай камуністычнай улады, якая за цану магчымасці сацыяльнага павышэння патрабавала ад нашай меншасці польскай ідэнтыфікацыі.

Пасля 1989 г. для некаторых сіл у польскім грамадстве недабіткі нацыянальных меншасцей і надалей з'яўляюцца палітычнай праблемай. З другога боку маем дачыненне з парадаксальнай сітуацыяй: колькасць нацменшасцей зменшваецца пры кшторaз большай колькасці ўсяляkіх прыхільных дэкларацый і запісаных дакументаў. **Пераможны дух эндэцкай канцэпцыі самарэалізаваўся ў дэмакратычнай Польшчы. Такія вось гістарычныя парадоксы лёсу нацыянальных меншасцей.**

Таму з вялікай зацікаўленасцю прачытаў я ў беластоцкай штодзённы інтэрв'ю з паслом Сейма Адамам Андрушкевічам з руху «Кукіз-15» аб яго ўдзеле ў стваранні «Аб'яднання Эндэцыя». Гэты малады, здольны правы палітык з Падляшша, народжаны ў 1990 годзе, хоча, здаецца, трывала спасылацца на міжваенную эндэцыю (пераняць невыкарыстаную, палітычную спадчыну), і напэўна падабраць частку электарату ў Права і справядлівасці. Дух месца рэгіёна і праблемы сённяшняй Еўропы даюць гэтай ініцыятыве ўсе шанцы на палітычны поспех. У адным са сказаў ён сцвярджае: «**W naszym stowarzyszeniu działają osoby prawosławne. Szanujemy też podlaskich Tatarów**». Не ведаем колькасці праваслаўных эндэкаў — але з'ява ўдзелу асабліва маладых праваслаўных палякаў у правых групоўках не з'яўляецца аніякай сенсацыяй для тых, хто хоць крыху цікавіцца грамадскімі працэсамі на Беласточчыне. Закрыты рух фанатаў Ягелоніі — гэта проста нацыянальны дзіцячы садзік. Не з'яўлецца таямніцай факт удзелу праваслаўных маладзёнаў у польскіх, крайне правых фармацыях Гайнаўкі, Бельска, Беластока, Саколкі. Бароняць і прапагандуюць яны памяць пра тых, якія стаялі, мабыць, нават і за асабістымі іхнімі сямейнымі трагедыямі ў гістарычным мінулым. Відавочная канцэпцыя польскага праваслаўя і яе вернікаў як толькі стопрацэнтных палякаў аказалася блізарукай і прыносіць эфекты, ад якіх маем здзіўленне і маўчанне самых праваслаўных. Але ці маўчанне гэта знак згоды і дазволу?

Яўген ВАПА

# XIII Беларускія этнаграфічна-музычныя майстар-класы
# «Лета з традыцыямі»







■ Ручнік з беларускімі ўзорамі, выкананы падчас летніка пад наглядам народнай беларускай ткачыхі Сцепаніды Сцепанюк (на здымку апранута ў беларускі народны ўбор)

**Трынаццаты ўжо раз дзеткі ва ўзросце 6-15 гадоў спаткаліся на Беларускіх этнаграфічна-музычных майстар-класах «Лета з традыцыямі», якія праходзілі з 13 па 20 ліпеня ў Музеі малой айчыны ў Студзіводах і яго наваколлі. Народныя творцы і апекуны вучылі дзяцей жаць жыта і вязаць яго ў снапы, даўняму рукадзеллю, народным песням і танцам Падляшша і Палесся. Можна сказаць, што маладыя асобы вучыліся на практыцы, як у мінулым у Студзіводах і наваколлі працавалі і адпачывалі беларусы.**

У Беларускіх майстар-класах «Лета з традыцыямі» прынялі ўдзел больш за 50 дзетак з Бельска-Падляшскага, Беластока, Варшавы, Вроцлава, Відава, Рагачоў і Ягуштова ды з Дзятлавіч і Кобрына, што ў Рэспубліцы Беларусь. На занятк і прыходзіла таксама дзяўчына з Чыкага, якая нарадзілася ў Злучаных Штатах Амерыкі, але рэгулярна наведвае бабулю ў Бельску-Падляшскім. У сваіх бабуль жылі таксама маладыя асобы з-па-за Бельска, а моладзь з Беларусі пасялілася ў Альжбеты і Дарафея Фіёнікаў. Мае маладыя суразмоўцы радаваліся, што супольна могуць вучыцца рукадзеллю, песням і танцам. У вялікай кампаніі ўдзельнікаў майстар-класаў завязаліся знаёмствы.

— Цэнтральным месцам падчас урачыстасці падвядзення вынікаў нашага летніка з'яўляюцца гэтыя 9 снапкоў жыта, якія супольна нажалі нашы дзеткі. Разам з інструктарамі займаліся ў нашым музеі каля 60 асоб, — сказаў 20 ліпеня падчас развітальнай сустрэчы арганізатар майстар-класаў Дарафей Фіёнік, старшыня аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах». — Падчас летніка яго ўдзельнікі ахвотна вучыліся народнаму рукадзеллю і знаёміліся з фальклорам нашых продкаў. Нашы інструктары стараліся зацікавіць іх нашымі традыцыямі. Мабыць частка маладых асоб у будучыні сама зацікавіцца жыццём продкаў.

Урачыстасць заканчэння беларускага летніка распачалася ў Студзіводскім музеі з прэзентацыі прац, якія паўсталі падчас майстар-класаў. Экспанаваліся яны ў мяшчанскім доме і вясковай хаце, дзе займаліся ўдзельнікі летніка. Бацькі фатаграфавалі працы сваіх дзяцей і іх сяброў.

— Мой сын, Якуб Шыманюк, прыходзіць на летнік здаўна. Тут зацікавіўся нашымі беларускімі традыцыямі, цяпер пачаў спяваць у «Жэмэрве». Пазней стаў хадзіць на летнік малодшы сын Гаўрыіл. Мне падабаюцца заняткі, якія арганізуе Студзіводскі музей, бо тут свая вясковая атмасфера, вучні знаёмяцца з нашай культурай, вучацца даўнім традыцыям, рукадзеллю, якім займаліся нашы продкі, — заявіла Барбара Шыманюк, якая ад імя ўсіх бацькоў падзякавала арганізатарам летніка, інструктарам, а Дарафею Фіёніку ўручыла букет кветак.

Летнік пахваліла таксама Івона Бушко, якой дачка Каміля штодзень займалася ў Студзіводскім музеі. Вучні і бацькі былі рады таксама экскурсіі ў наваколле Гацькоў і супольнаму вогнішчу ў Студзіводах.

— Я здаўна вучыўся гаварыць па-свойму, спачатку з бабулямі і дзядулямі, а пасля дома з бацькамі стаў так гаварыць. Тут, на летніку, таксама размаўляем на сваёй мове, спяваем свае песні і вучымся даўнім народным танцам, — сказаў Якуб Шыманюк, які падчас завяршальнай сустрэчы прыгожа спяваў у «Жэмэрве».

Кіраўнік гурта «Жэмэрва» Анна Фіёнік рада, што калектыў папоўніўся мужчынскімі галасамі. У саставе капэлы «Жэмэрвы» на скрыпках іграюць Уля Алексяюк і Віёля Боцюк. Падчас завяршальнага выступу на цымбалах зайграла Марыя Гулюта з Кобрына, а на акардэоне — Дарафей Фіёнік, які ўзначальвае капэлу. Дзяўчаты з «Жэмэрвы» падчас летніка ўдала вучылі яго ўдзельнікаў народным танцам і даўнім спевам, што цікава было запрэзентаванае перад бацькамі. Пасля ў карагодзе пайшлі ўсе ўдзельнікі майстар-класаў і затрымаліся ў вялікім крузе. Дарафей Фіёнік падзякаваў інструктарам, жанчынам з Беласточчыны і Беларусі ды дзяўчатам з «Жэмэрвы» за ангажаванасць у навучанне дзетак рукадзеллю і фальклору, а таксама ўручыў ім падарункі. Арганізацыйнымі справамі займалася і за парадкам сачыла Юсцінія Гапанюк з Ягуштова, якой таксама ён падзякаваў. Дарафей Фіёнік абяцаў яшчэ, што дома падарунак атрымае таксама яго жонка Альжбета, якая апекавалася перш за ўсё гасцямі з Беларусі. Інструктары майстар-класаў былі знатакамі па сваім рукадзеллі і патрапілі зацікавіць дзетак даўнімі заняткамі. У вясковай музейнай хаце вакол карціны вісеў ручнік з прыгожым беларускім арнаментам, які падчас летніка выткалі вучні з дапамогай Галіны Брэзіны з Дзятлавіч, пад поўным наглядам народнай беларускай ткачыхі Сцепаніды Сцепанюк з Дарапіевіч каля Маларыты. Раней прэзентавала яна ў Студзіводскім музеі выставу ткацтва і вышыўкі, а цяпер на майстар-класах вучыла народнаму ткацтву і расказвала аб традыцыях нашых продкаў.

— Навучылася я ткаць у дзяцінстве ад сваёй мамы. Цяпер таксама тку і вучу ткацтву моладзь. Мае тканыя вырабы з народнымі ўзорамі прэзентаваліся на шматлікіх выставах у Беларусі. Цяпер займаюся тканнем уручную касцюмаў з даўнімі ўзорамі для музычных калектываў. Тут падчас ткання патрэбная была вялікая цярплівасць, каб выканаць дэталі ўзораў. Важна, што дзеткі хочуць вучыцца нашым традыцыям, — заявіла Сцепаніда Сцепанюк.

На выставах у Студзіводскім музеі можна было ўбачыць вырабы ўдзельнікаў летніка, саломапляценне, доўгія паясы, карціны на шкле, лялькі і анёлы з саломы і палатняных абрэзкаў. Інструктар па саломапляценні Ірына Гулюта з Кобрынскага каледжа мастацтваў з'яўляецца вопытнай майстрыхай па гэтага роду рукадзеллі.

— Дзеткі і моладзь выконвалі тут дэкаратыўныя прадметы з саломы, малявалі на шкле і рабілі выцінанкі. Вучні займаліся ахвотна. У некаторых вучняў я заўважыла талент да ручной мастацкай працы, які добра было б разгортваць. Я вучыла саломапляценню разам з інструктарам з нашага каледжа Аленай Сіняк, якая вучыла таксама маляваць на шкле. Зараз на тварах дзетак малюе яна прыгожыя мастацкія ўзоры. Трэба было мець многа цярплівасці, каб уручную выткаць паясы і гэтаму навучаў ужо Максім Фіёнік, — сказала інструктар Ірына Гулюта, якая прывезла з сабой вучняў з Кобрына.

— Мы тут прыемна праводзім час і вучымся выконваць цікавыя прадметы. У Кобрыне спяваем у калектыве «Таўкачыкі». Тут вучыліся мы спяваць цікавыя народныя песні, — сказала Юлія Гулюта, якой сястра Марыя пазней зайграла на цымбалах.

Аліна і Карына Сучкевіч і Ціхан Брэзін спяваюць у калектыве «Дзятлавіцкі падлесак», а ў музеі ахвотна вучыліся рукадзеллю, народным танцам і ўдала спявалі песні.

— Мы паспрабавалі плесці каробку, але паколькі са мной займаліся малодшыя дзеткі, складана было ім гэта рабіць. Мы тады з выкарыстаннем саломы сталі выконваць лялькі, анёлкі, а нават некаторых герояў казак і гэта добра атрымалася ў дзетак, — заявіла інструктар Зоя Майстровіч з Рудутаў.

— Я родам з Бельска, выпускніца Бельскага белліцэя, але зараз жыву ў Рагачах. Падчас летніка пасялілася тут у мамы разам з дзяцьмі і вучыла ўдзельнікаў майстар-класаў вышываць крыжыкам, як часта ў нас вышывалася ў мінулым. Паказала я тут некаторыя даўнія беларускія ўзоры. Пазнаёміўшыся тут з тэхнікай вышывання, мабыць дзяўчаты дома станyць вышываць для сябе, — сказала Іаанна Алексяюк.

Вучні з Кобрына і Дзятлавіч былі рады сяброўству з вучнямі з Польшчы. Даўнія заняткі, танцы і песні спадабаліся Нэлі Яканюк з Чыкага. Астатнія вучні шкадавалі, што хутка мінуў час беларускага летніка. А бацькі з упэўненасцю заяўлялі, што запішуць сваіх дзяцей на музейны летнік у наступным годзе.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

## Новыя стаянкі

Два гады таму ў Беластоку пабудавалі 300 стаянак для аўтамабіляў. Шкада, што няшмат іх прыбыло ў цэнтры горада. Сорак месцаў вадзіцелі атрымалі ў карыстанне на стаянках аўтамабіляў на пляцоўках паміж вуліцамі Мальмеда і Новы Свят Найбольш стаянак прыбыло на вольных пасёлкавых пляцоўках, між іншым, на пасёлках Бацечкі, Новае Места, Бэма і Антонюк. Вялікую стаянку здалі ў карыстанне пры вуліцы Дзібуа — на 120 аўтамабіляў.

Стаянкі на 180 аўтамабіляў пабудавалі магістрат і жыллёвыя кааператывы „Каляёвая сям'я", „Элеменцік" і „Будаўнічыя" на пасёлках пры вуліцах Студзенцкай (тут найбольш — на 80 месцаў), Пуласкага (на 30 месцаў), Гаёвай і Пальмавай.

Сёлета будуюць стаянкі для аўтамабіляў на 250 месцаў на жыллёвых пасёлках пры вуліцах Бранеўскага, Сталічнай, Ардануўны, Камбатантаў і Высокі Стачок. Пабудуе іх фірма „АВ Супербрук". Кошт гэтай інвестыцыі складзе суму 765 тысяч злотых. Найбольш месцаў для аўтамабіляў прыбудзе пры вуліцы Камбатантаў — 90. Меншыя стаянкі будуць пры вуліцы Бранеўскага — на 32 месцы і пры вуліцы Ардануўны — на 36 месцаў.

І зараз ля жылых блокаў на беластоцкіх гарадскіх пасёлках рэдка хто з вадзіцелей аставіць свой аўтамабіль на газоне або на дарожцы, прызначаная для праезду пажарнай машыны або хуткай дапамогі. Тут больш частымі будуць кантролі гарадской стражы. І будзе менш „дзікіх" стаянак.

## Жніво

24 ліпеня гэтага года першым пачаў жаць жыта на сваім палетку Аляксандр Ігнацюк з Новага Ляўкова Нараўчанскай гміны. Дзень быў сонечны, а каласе жыта сухое. Камбайнер і ягоная машына працавалі безаварыйна. Збожжа было добра вымалачанае. Да зярнятка.

**Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**

# Чаромхаўскі фестываль

**XXI Фестываль шматлікіх культур і народаў «З вясковага панадворка», які праходзіў 22-24 ліпеня ў Чаромсе, ужо за намі. Арганізатарамі цыклічнага мерапрыемства міжнароднага рангу з'яўляліся гурт «Чарамшына» і Таварыства любіцеляў народнай культуры, а дакладней кажучы лідары гурту Барбара і Міраслаў Самасюкі. Варта адзначыць, што дзякуючы ініцыятыве і хадайніцтву Міраслава, заўзятага музыканта і трэнера футбольнай каманды «Калеяж», паралельна з фестывалем адбыліся Міжнародныя спаборніцтвы па балотным футболе лігі чэмпіёнаў «Swampions Soccer League».**

Фота Уладзіміра Сідарука

Надвор'е паспрыяла фестывалю, не паскупілася на цеплыню і сонечныя промні (у мінулым годзе ў суботу прайшла навальніца з лівнем). Ды і публіка не падвяла. Аматары «фолькаў» прыбылі з усяе Польшчы і з-за мяжы. Задбала пра гэта «Чарамшына» загадзя змяшчаючы на фейсбуку запрашэнне. Да таго Мазавецкая чыгунка пусціла ў рух адмысловы бясплатны цягнік з Варшавы-Усходняй у Чаромху. Аўтамабільная стаянка — з процілеглага боку вуліцы — запоўнена была машынамі з рэгістрацыйнымі знакамі шматлікіх рэгіёнаў Польшчы. На пляцоўцы побач Гміннага цэнтра культуры купцы зранку расставілі laткі з цацкамі і смакоццем, таксама рукадзельнікі прадавалі свае вырабы. Над разнаколерным «фестывальным мястэчкам» узвышаліся зялёна-цёмныя парасоны аднаго півварнага завода з прыстасобленымі пры століках месцамі для сядзення. Чакалі аматараў асвяжальнага напітку.

Мерапрыемства пачалося ў пятніцу ў 12 гадзін з канферэнцыі «Культура і міграцыя — стан, выклік, перспектывы». У 18:30 даступнай стала фотавыстаўка Тамаша Гжэся і Тамаша Паскробкі «Святыя куты Падляшша», а ў пленэры ставіўся спектакль «Малітва. Тэатр паўшэхны». Канцэрт фолькавых гуртоў пачаўся ў 20 гадзін. Выступілі: «Оратніца» (Балгарыя), «Добраночь» (Расея), «Чарамшына» і дыджэй Вой з праграмай «Этна-парты».

У суботу, 23 ліпеня ў 15 гадзін пявунні з сяла Чаромха з «Гілачкай» прадэманстравалі вясельны абрад «Каравай». Публіка, у асноўным прыезджыя госці, была пад уражаннем як самадзейнікаў у нацыянальных касцюмах і выкананых імі прыпевак, так і здобнага каравая, якім «каравайніцы» абдарылі публіку. Пасля дэманстраваліся фільмы Юрыя Каліны «Сярожа», «Ад голаду і мору» і «Бежанцы». Прэзентацыя адбывалася пры запоўненай зале. Паколькі не хапіла сядзячых месцаў, дык многія стаялі збоку пры дзвярах або проста сядалі на падлозе перад экранам. Дэманстрацыя фільмаў праходзіла ў поўнай цішыні, адно пад канец фільма «Сярожа» пачуліся воплескі ў знак прызнання герою, Сяргею Нічыпаруку, калі ён выяўляў сваё стаўленне да айчыны і грамадска-палітычных перамен пры «Салідарнасці». Бурнымі апладысментамі зала абдарыла рэжысёра Юрыя Каліну за майстэрскую рэжысуру фільмаў. Затым адбылася дыскусія публікі з рэжысёрам. У час размовы Юры Каліна выявіў мне, што рыхтуе чарговы фільм пра бежанцаў і звяртаецца да грамадства з заклікам, каб дасылаць яму прозвішчы навочных сведак тадышніх падзей або сямейнікаў, якія захавалі ў памяці ўспаміны бацькоў, каб зафіксаваць іх на кінастужцы. У той жа дзень ад 15 па 20 гадзіну працавала мабільная станцыя донарства крыві, дзе можна было аддаць кроў. На адвячорку прэзентаваліся фолькавыя гурты «Mosaik» (Польшча), «Cimbaliband» (Венгрыя), «Mokoomba» (Зімбабве), «Light in Babylon» (Турцыя) і айчынны дыджэй Вой з «Этна-парты». Апрача згаданых імпрэзаў у час фестывалю працавалі майстар-класы па вырабе прадметаў з лямцу, па саломаплясценні, ганчарстве, мастацкім рукадзеллі, ткацтве і арыгамі. Канферанс вёў па-мастацку «добры дух» у касцюме гарняка Станіслаў Яскулка. Аб кулінарным конкурсе «Падляшскай рэгіянальнай кухні» і спаборніцтвах лігі чэмпіёнаў балотнага футбола ў чарговым допісе.

**Уладзімір СІДАРУК**



# Далёка ад горада

Часам вельмі добра вырвацца з шуму горада і выехаць на вёску. Найлепш вярнуцца да самага блізкага твайму сэрцу месца, там дзе кожны родны куточак прыпамінае шчаслівае дзяцінства, праведзенае з самымі блізкімі людзьмі: бацькамі, дзядамі, сваякамі ці сябрамі-аднавяскоўцамі. Безумоўна, самым блізкім месцам для мяне з'яўляюцца Малінікі. Тут я нарадзіўся, хадзіў у школу, дапамагаў бацькам у працы. Тут ведаю кожную хату, кожнае поле і кожны родны куточак. Малінікі я заўсёды асацыяваў з апісаннямі прыроды ў славутай паэме Якуба Коласа «Новая зямля». Дарэчы, гэта мая першая беларуская кніга, якую я прачытаў у дзяцінстве. На вёсцы час плыве іншым рытмам, больш павольна, спакайней. Будучы на вёсцы, люблю паразмаўляць з простымі, вясковымі людзьмі пра іх справы і погляды. Я заўсёды са сваім суседам згаджаюся ў поглядах на палітычныя справы, пра якія не заўсёды маю з кім пагаварыць у Беластоку.

Добра паехаць на веласіпедзе ды адведаць некага табе важнага, вельмі блізкага чалавека, які ведае цябе з дзяцінства, памятае цябе ад тваіх ранніх гадоў. Ведае і разумее цябе не горш за бацькоў. Гэта дзядуля, якога можна слухаць з вялікай увагай і зацікаўленасцю, асабліва яго няскончаныя апавяданні пра людзей, якіх ты не меў нагоды пазнаць, а якія твайму дзядулю былі самымі блізкімі і роднымі. Гэта твае прадзеды і прапрадзеды, дзядулевы браты і сёстры. Апавяданні пра бежанства, вайну, рускіх, немцаў і палякаў. На нашых падляшскіх вёсках час плыве памалу. Старэйшыя людзі не могуць зразумець, чаму маладыя выязджаюць з вёсак у горад. Яны тут нарадзіліся, тут пражылі цэлае жыццё і хочуць тут памерці. А маладым заўсёды свет малы... Нашы дзяды не могуць зразумець за кім мы ўсё бяжым, каго гонім. Яны вельмі рэдка ездзяць у горад і шчаслівыя, што жывуць на вёсцы. Але вёска ўжо не тая самая... З году ў год штораз больш пустых хат, пустых палёў, а дарожкі, па якіх рэдка людзі ездзяць, зарастаюць травою.

Па дарозе да дзеда пераязджаю цераз Орлю. Затрымліваюся ў спадарыні Веры — 94-гадовай бабулі майго сябра. Яна заўсёды вітае мяне ветліва. У яе астаўляю веласіпед, іду ў краму купіць падарункі дзеду. Па дарозе мінаю закрытую гасподу, за ёю закрытая крама. Проста перада мною сінагога, а направа царква, у якой адпраўляецца богаслужэнне. Пасля мінаю вясельны дом, які некалькі гадоў быў крамай, у якой працавала маці маёй сяброўкі з пачатковай школы. Шмат тут памянялася. Орля апусцела. Толькі пры маленькім базарчыку пануе нейкі рух. За задняй сцяной закрытай гасподы п'яніцы п'юць. Заходжу ў краму і стаю ў чарзе. Там нейкі падпіты тып, хаця купіў сваё піва, не выходзіць, толькі зноў стае ў чарзе. Неяк шукае зачэпкі для размовы, мо хоча, каб дакінуць яму грошай да віна. Не звяртаю на яго ўвагі, купляю тое, што трэба, і выходжу. Вяртаюся да спадарыні Веры, якая кажа, што яе суседка ад яе старэйшая і мае... 102 гады! Хаця палячка, то добрая баба, — хваліць пані Вера сваю суседку. Пані Вера, хаця праваслаўная, слухае каталіцкае Радыё Марыя. Я кажу, што гэта прапагандысцкае радыё. Таксама думаюць сын і нявестка пані Веры.

— Гэта нічога. Гэта ж слова Божае! — кажа мне.

У Орлі кожнае месца ўзбуджае ўва мне ўспаміны, якія дрэмлюць у шуфлядах памяці: старая царква, у якой вянчаліся мае прадзеды па лініі маёй маці і бацькі, крама, управа гміны. Яўрэйская сінагога прыпамінае, што дзве трэціны жыхароў Орлі складалі яўрэі. Пытаю спадарыню Веру, якімі яны былі.

— Былі добрыя, нашым дапамагалі, а мы ім. У суботу нічога не рабілі. Нават каб у печы напаліць, клікалі нашых і за гэта нам нават плацілі.

Мой дзед таксама хваліць яўрэяў. Не магу зразумець сучасных польскіх нацыяналістаў. Чаму ў іх такая нянавісць да народа, які з мясцовымі жыхарамі жыў тут спрадвеку дружна? Кожны чалавек, незалежна ад нацыі, расы, веравызнання ці поглядаў мае права жыць дзе хоча і як хоча. Мястэчка Орля — сімвал талерантнасці. Як нехта тут біў, паліў ды мардаваў, то прыходзіў здалёк, а мясцовыя цярпелі.

Пераязджаю на веласіпедзе каля славутай на ўсю Польшчу шаптухі Валечкі, якой у гэтым годзе споўнілася 90 гадоў. У чарзе стаіць каля пяцідзесяці аўтамашын. Нумары рэгістрацыі з усёй Польшчы. Бываюць і аўтамашыны на замежных нумарах. Гэта тыя, хто страціў надзею ў лекараў і шукае дапамогі ў шаптухі. Калі вяртаюся ад дзядулі ў 17 гадзін, перад хатай Валечкі надалей стаіць сем аўтамабіляў.

У Орлі пачынае падаць дождж, а за Кашалямі — сухая дарога. У суседніх ад Малінік Шарнях людзі ветлівыя і добразычліва вітаюцца са мною. Хаця я стаміўся, то задаволены сустрэчамі з цікавымі людзьмі і блізкімі мне месцамі майго дзяцінства.

**Юрка БУЙНЮК**

# Скарбасховішча

Будаваў яго між іншым Аляксандр Кардаш. Сюды, на Семяноўскае вадасховішча, у даліне верхняй Нарвы, прыляцелі даўно ўжо і пасяліліся водныя птахі. А людзі адляцелі. Альбо прылятаюць час-часом, на свята. І ён тут сёння, у ліпеньскі вечар, будаўнік вадасховішча і руйнатар залітых вёсак. Працуе пры гэтым схове для вады. Але хоча ўратаваць усё тое, што пад вадой, каб засталося хаця б у памяці. Возера то сохне, то сінее, але вабіць турыстаў з Падляшша.

— Семяноўскае «возера» ўзнікла ў 1977-1990 гадах. Спынілі ваду рэчкі Нарвы ў рукаве ў раёне Лукі і Рыбакоў. Паверхня вады пры мінімальным узроўні на парозе 142,30 метраў над узроўнем мора — 11,7 квадратных кіламетраў (максімальна 32,4 кв. км), умяшчальнасць вадасховішча — 17,5 млн. кубаметраў вады (поўная — 79,5 млн. кубаметраў), сярэдняя глыбіня — 1,5 м. Пяць бакавых дамбаў даўжынёй 8 250 метраў... Я з гэтым вадасховішчам звязаны ад самага пачатку. А з гэтай зямлёй — ад свайго нараджэння. Мая бабуля — з вёскі Боўтрыкі. Людзей з бабулінай вёскі вывезлі, а хаты залілі вадой. А я жыву ў Бандарах, працую пры эксплуатацыі, — расказвае Аляксандр Кардаш на чарговай імпрэзе на беразе вадасховішча — на шаснаццатым ужо фэсце «Бандароўская гасцёўня». Сабраліся тут таксама тыя, што перажылі тое высяленне з родных гнёздаў. Сустракаюцца на беразе былой вёскі Рудні, каля адыходнага крыжа каля месца былой школы ў Луцэ. Цягне іх да свайго, нават калі яго няма.

— І маюць дагэтуль да мяне крыўду, бо ж я «макаў» свае пальцы ў гэтай бядзе. Што мы адсюль іх выгналі. А я толькі працаваў, выконваў свае абавязкі, — тлумачыцца Аляксандр. — Разумею іх боль. Мусілі яны пакінуць свае парогі, кожную вырашчаную раслінку, падворкі якія пакідалі ўжо няраз іхнія продкі. Там дружылі, гадаваліся, гулялі. Выбраліся на новыя месцы. Шмат хто з іх ужо памёр, не прыжыўшыся на новым корані. А я хачу гэта ўсё захаваць, каб памяць не канула ў ваду гэтага штучнага вадаёма.

Аляксандр збірае дакументацыю ўжо 16 гадоў. Збіраў па крышынцы ўспаміны і вобразы ад хаты да хаты. Матэрыялы сканіраваў, арыгіналы вяртаў у хатнія архівы.

— Вельмі дзякую ўсім, хто мне гэта ўсё пазычыў. Хачу апісаць жыццё кожнай вёскі, лёс усіх разам. Хачу сабраць весткі не толькі з апошняга перыяду жыцця затопленых вёсак. Быў такі час, калі тутэйшым земляробам нельга было будаваць дамоў, ставіць платоў. На свам! Жылі ў няўпэўненасці. А калі супакоілася, прыйшлося ім глядзець на тое, як чужыя робяць тут парадкі. Людзі прывыклі, што заўсёды была нейкая змена. Што прыходзілі і перамервалі іхняе, казалі сыходзіць з гаспадаркі. Або і палілі... Людзі прывыклі. Хлёбнулі гора не раз. Нашы людзі вярнуліся дахаты пасля бадзянняў па ўсім свеце ў час бежанства, пасля адбудаваліся. Мая бабуля з Боўтрыкаў была ў Краснаярскай губерні... Наўкол усё гарэла, а яны вярнуліся, хто даў рады... Хачу запісаць у гэтай кнізе іх перажыванні, роздумы. Як мусілі дастасоўвацца да ўсё новых сітуацый, каб выжыць. Хачу паказаць таксама іх характар, апрача здымкаў хат, млыноў, школ, у час працы і забавы, у час сходаў, працы і страйкаў (у нас быў страйк арэляў), і ва ўсялякіх арміях. Праваслаўных, каталікаў, з даваеннага часу — яшчэ і яўрэяў. Можна запісаць яшчэ жывыя ўспаміны жывых людзей. Хто з іх дасць рады прыйсці яшчэ да «свайго» крыжыка на беразе памерлай вёскі... Успаміны часта ўжо паніхідны, балючыя, і для іх, і для мяне. І пра чыгуначныя пуці хачу напісаць, якія, о ля, бачыце там пад гэтым мостам на возеры. Яны ляжаць тут з 1909 года. Расказаць хачу быль, легенду і анекдоту.

— Усё гэта збяру, — упэўнена дадае Аляксандр. — І, узяўшы ў рукі кніжку, убачыце іх усіх — і людзей, і вёскі. Луку, Гарбары, Рудню, Боўтрыкі, Буды. У наступным годзе будзе ўрачысты ўспамін — сорак



■ Аляксандр Кардаш — другі злева

гадоў ад часу, калі рабілася гэта вадасховішча, калі высяляліся цяпер падводныя вёскі. Будзем мець спатканне ў гміне, у Міхалове, але будуць таксама прадстаўнікі яшчэ і Нараўчанскай міны. Будуць і бацюшкі з гэтых вёсак, з успамінам пра людзей, якія там хрысціліся і памiралі. Заснуем камітэт. Будзем выдаваць кніжку, зробім выставу. Я хацеў бы адбіць вялікія здымкі



■ Як рыбы на беразе



■ Як птахі ў клетцы

цікавейшых хат, якія стаялі ў гэтых вёсках, але калегі з Міхалова кажуць, каб тыя здымкі-плакаты былі меншыя, але каб зрабіць «партрэты» ўсім хатам... Кранае ўсё гэта: зноў нашых людзей выгналі з родных дамоў. Збіраем здымкі. Часам невядома, каго яны прадстаўляюць. Калі не здабудзем пра здымак ніякай інфармацыі — калі ён паўстаў, каго прадстаўляе, няхай нават не зусім поўнай, але хаця б нейкую — такі здымак канчаткова не будзе мець значэння. Многа я ўжо ўсяго сабраў. Але маю цяпер свае праблемы, свае клопаты, і каб усё пазбіраць, усё неяк адцягваў... Часу не адвернеш. Не можам пакінуць усяго, што яшчэ засталося, бо яно прападзе! Як я шкадую, чаму не запісаў успамінаў бабулі! Быў час на гэта. А мне тады аж надаядала бабіна «гаварня», злаваўся на яе. Тады тое мяне не прыцягвала і не цікавіла. Да гэтага трэба даспець.

Аляксандр штодзённа глядзіць на гладзь вады, якая заліла былое нашых вёсак.

— Не можа яна заліць памяці! Першую кніжачку я зрабіў быў для жыхароў былых Буд, пасля — для жыхароў Лукі. Каталагізаваў усе матэрыялы. Апрацаваў вёску Гарбары, сабраў хутары Семяноўкі, Тарнопаля... Маю цяпер, напрыклад, цікавы здымак недзе з 1927 года, як сюды прыязджалі польскія настаўнікі, пад гальштукамі, элегантна апранутыя. Польшчыць прыехалі. Людзі з нашай тэрыторыі перажылі ўсяго! Асабліва дзеці. Да другога-трэцяга класа вучыліся па-польску. Праз два гады — «рускія» занялі. Бачыў я і тыя здымкі: у чобатах, у фуфайках сядзяць. Настаўнікі ўжо вучаць па-руску... І так кругаля... Трэба памятку зрабіць, каб памяць пра людзей, якія тут жылі, не прапала.

Паяўляліся матэрыялы Аляксандра Кардаша і ў інтэрнэце.

— Людзі свае хаты пазнаюць: «О, наша хатка! Там мая мама стаіць! А з якога года гэты здымак?» Я ў інтэрнэт не даваў гэтых матэрыялаў. Да гэтай пары «выдаваў» тыя кніжкі «вясковыя», для паасобных вёсак — ксеракопіі рабіў. Людзі мяне прасілі. Матэрыяламі іншыя карыстаюцца ў сеціве. Добра, што хоць дадаюць мае ініцыялы «КА» — Кардаш Аляксандр праўдападобна «выдаў», дадумваюцца. Дык трэба выдаць усё добра. У вялікай кнізе нашага староння. І з гэтага берага рэчкі, і з другога. Хаця яны між сабою калісь... біліся. Як і дзяўчаты: «Не пайду за рэчку замуж, там другая страна. Бо ў нас гавораць «ён, яна», а ў іх гаворат «вуон, вана». Так і было. Біліся, і добра зналіся, у выпадку якой бяды маглі на сябе разлічваць, дапамагалі адны адным. І гулялі. А цяпер вось тут гуляем. Слёзы сушым.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

## Будуюць новыя вясковыя святліцы

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета шмат прыгожых святліц. Пра гэтыя вясковыя дамы культуры дбаюць гмінныя ўлады. Святліцы цешаць зрок, між іншым, у Альхоўцы, Ахрымах, Гушчэвіне, Заблотчыне, Міхнаўцы, Міклашэве, Нараўцы, Плянце, Семяноўцы, Старым Ляўкове і ў Тарнопалі. Шэсць з іх маюць ганачкі. Некаторыя з гэтых дамоў культуры маюць камінкі, кухоннае абсталяванне (неабходную пасуду, міскі, кубкі, шклянкі, нажы, відэльцы і лыжкі), тэлевізары, новыя сталы і крэслы, а таксама навейшыя фіранкі.



Найбольш культурна-забаўляльных мерапрыемстваў адбываецца ў Нараўцы, Старым Ляўкове, Семяноўцы, Міхнаўцы, Плянце і ў Міклашэве. Ладзілі тут аўтарскія сустрэчы (паэты былі «свае», з Нараўчанскай гміны) і танцавальныя вечарыны ды сустрэчы з людзьмі цікавых прафесій і падарожнікамі ў розныя краіны свету, а таксама з расказчыкамі пра жыццё-быццё перад вайной і падчас Другой сусветнай вайны. Адным з такіх яркіх расказчыкаў з'яўляецца Уладзімір Клімюк з Плянты. У святліцы ў Міхнаўцы жанчыны пяклі каравай ды кансервавалі ў слоіках мяса, а ў Старым Ляўкове пяклі «буславыя лапкі» і салодкія булачкі. У Ляўкове моладзь і дарослыя ахвотна прыходзяць на майстар-класы па лепцы з гліны.

Сёлета ў хуткім тэмпе будуюць дзве мураваныя з вялікіх чырвоных пустакоў новыя святліцы, між іншым, у Лешуках (на здымку) і ў Новым Масеве.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**

## Падманлівы знак

Едучы з Мора ў Збуч, непадалёк за сялом стаіць папераджальны знак, які інфармуе аб чыгуначным пераездзе. Першапачаткова я сабе не верыў: чыгунка ў чыстым полі? Гэта ж абсурд. Дарэчы, не прыкмеціў я парослага пустазеллем пуці, праз які мы праязджалі. Знак навенькі, быццам учора пастаўлены. Шыкарна прэзентуецца. Для мясцовай грамадскасці ўсё зразумела. Гэта пераезд на даўнейшай чыгуначнай лініі № 52 Гайнаўка — Ляўкі. Цягнікі тут не курсіруюць. Але для іншагародніх шафёраў гэта падманлівы знак. Аб чым думалі чыноўнікі дарожнай публічнай службы ў Бельску-Падляшскім, ставіўшы адноўлены знак? А мо вернуцца для чыгункі добрыя часы і «рэвіталізуюць» (адновяць) забытую лінію № 52 з Гайнаўкі ў Ляўкі, затым і прыпынак «Morze» стане дзейсным. Каб гэтыя мары чым хутчэй здзейсніліся.



**Тэкст і фота (УС)**


Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# зорка
для дзяцей і моладзі


# Як мы рыхтавалі радыёперадачу






Міхась Сцепанюк вачыма Олі Яроцкай



«Парнасік» з Міхасём Сцепанюком

Хачу расказаць пра новы досвед у радыёжурналістыцы. Да нас прыехаў рэдактар **Міхась Сцепанюк**. У школьныя гады ён быў звязаны з Сустрэчамі «Зоркі». Цяпер ён журналіст беларускай рэдакцыі Радыё Беласток, вядзе, між іншым, перадачу «Пад знакам Пагоні».

Міхась Сцепанюк працаваў з рэдакцыяй «Парнасіка». Ён падказаў нам, як падрыхтаваць і запісаць інтэрв'ю. Калі суразмоўца скажа нешта цікавае, то журналісту трэба гэты матыў падтрымаць, развінуць, каб чалавек больш адкрыўся.

Тэорыю мы праверылі на практыцы. Мы рашылі ўзяць інтэрв'ю ў паэтэсы Міры Лукшы і сустрачанскіх паэтак: Юліі Бяганскай, Магды Бяляўскай і Улі Марчук. Размаўляць было лёгка і прыемна. Найбольш складанасцей атрымалася з тэхнічнага боку. Самы цяжкі момант — мантаж, які заняў нам шмат часу. Нам трэба было яшчэ падабраць музыку да вершаў, каб яна добра папаўняла змест і была адпаведным фонам для перадачы. Мы рашылі, што да вершаў найбольш падыходзіць класічная музыка Яна Тарасевіча. Для многіх гэта быў першы кантакт з творамі беларускага кампазітара.

Заняткі з Міхасём Сцепанюком прынеслі нам многа творчай радасці. Яны нас многаму навучылі, адкрылі нам новыя гарызонты, веды і людзей. А нашы першыя слухачы — сябры Сустрэч «Зоркі» — пахвалілі нашы спробы ў радыёжурналістыцы. Перадача таксама прагучала на Радыё Беласток. Гэта штосьці неверагоднае! Дзякуем вам, спадар Міхась!

**Оля ЯРОЦКАЯ,**
**«Парнасік»**

*З гісторыі «Нівы»*

# «Зорка» як інтэрнэт!

«Зорка» — неразлучная частка «Нівы». Яна існуе 59 гадоў, а першым рэдактарам была Вера Валкавыцкая. «Зорка» ўзнікла па прапанове настаўнікаў і ад пачатку дапамагала дзецям, якія вывучаюць беларускую мову.

«Зорка» і «Ніва» аб'ядноўваюць беларусаў усяго свету. Вялікую ролю ў гэтай справе адыграла рубрыка «Пазнаёмімся», дзякуючы якой дзеці з Падляшша перапісваліся з аднагодкамі з Беларусі, Расіі, Азербайджана, Эстоніі, Якуціі...

— Гэта было падобнае на сённяшні інтэрнэт, — кажа рэдактар Яўген Вапа.

Галоўны рэдактар «Нівы» расказаў нам пра допісы зорчыных карэспандэнтаў. Таксама пазнаёміў нас з першымі нумарамі «Зоркі» і зачытаў лісты дзяцей. Некаторыя з іх сталі прафесійнымі журналістамі або вядомымі беларускімі дзеячамі. Мы былі вельмі зацікаўленыя гэтымі гісторыямі.

**Магда БЯЛЯЎСКАЯ,**
**«Зорнымі вачыма»**



Магда Бяляўская і Крыстыян Паскробка ў творчым трансе

Вераніка Кардзюкевіч,
«Зорнымі вачыма»

## Лес

Храм прыроды
Спакой і цішыня
У ім усе праблемы
Адыходзяць

Трава дрэвы рака
Усё што патрэбна
Для жыцця

У ім найлепш маліцца
Да Бога
Да нашага Бога

Без лесу мы непатрэбны
Лес без нас
Не служыць нікому

## УВАГА КОНКУРС!
## № 32-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 14 жніўня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

Пад звонкай хвояю іглістай,
Прабіўшы мох, як буравік.
Стаіць у верасе кваяцістым
Лясное дзіва —
Б......

(Кастусь Цвірка)

Адказ на загадкі № 28: медуніца. Узнагароду, набор паштовак «Помнікі Навагрудка», выйграла Вікторыя Гаць з Бельска-Падляшскага. Віншуем!

# Дзеці хутка вылоўліваюць фальшывыя ноткі

*Крэатыўнае інтэрв'ю з паэтэсай **Мірай Лукшай**, аўтаркай культавага зборніка вершаў **«Жывінкі з глыбінкі»**, выдадзенага «Нівай» у 2009 годзе.*


Оля Буслоўская


Міра Лукша

**Рэдакцыя «Зорнымі вачыма»:** *— Ці цяжэй пісаць для дзяцей, ці для дарослых? Для якога чытача Вы любіце пісаць?*

**Міра Лукша:** — Для дзяцей цікавей пісаць. Я заўсёды стараюся, каб мой верш быў класічны, рыфмаваны, каб быў здаровы рытм. Не ёсць так, што я пішу, пішу і там штосьці атрымліваецца. Мае вершы рыфмаваныя, яны ўзнікаюць раней у галаве. Яны маюць сваю мелодыю, таму многія з іх сталі песнямі. Люблю пісаць для дзяцей таксама таму, бо бачу, як тыя вершы жывуць сваім жыццём, іх спяваюць, яны «ходзяць» па інтэрнэце. Для дзяцей пісаць цікавей, але і больш небяспечна, таму што дзеці хутка вылоўліваюць фальшывыя ноткі. Мы павінны памятаць, што пішам для чытачоў.

**З.В.:** *— Ці зборнік «Жывінкі з глыбінкі» мае паспрыяць веданню падляшскіх мясцовасцей, ці назваў звяркоў?*

**М.Л.:** — Я думаю, што гэты зборнік найперш краязнаўчы, таму што там арыгінальныя назвы мясцовасцей і пададзены іх польскі варыянт. Гэта важныя для нас веды.

**З.В.:** *— Ці гэтыя вершы адразу выйшлі ў кнізе, ці раней друкаваліся на старонках «Зоркі»?*

**М.Л.:** — Гэтыя вершы былі напісаны выключна для «Зоркі». Пачалося ад вершыка пра зубранятка. Можна сказаць, што дапамагала ўся рэдакцыя. Сябры падказвалі мясцовасці, апавядалі пра іх, натхнялі. Пасля, калі выйшла кніжка з выбарам гэтых вершаў, я напісала дадатковыя вершы, напрыклад «Жоравы з Жураўліка», гэты верш апынуўся ў томе «Падарункі». Я пішу часта. Проста, сядаю і пішу, вельмі часта здараецца, што па заказе «Зоркі».


мал. Караліны Каравай

**З.В.:** *— Ці Вы былі ва ўсіх мясцовасцях, пра якія пішаце ў кніжцы? Ці сапраўды там можна сустрэць гэтых звяркоў?*

**М.Л.:** — У некаторых мясцовасцях была пасля надрукавання гэтага зборніка. Памятаю, як ехала аўтобусам і бачу на ўказальніку «Паўлінова», але з аўтобуса не выйшла, паехала далей. У большасці мясцовасцей была, а ў некаторых не. Не была, напрыклад у Шпаках, Лебядзіне. Трэба будзе туды заглянуць.

**З.В.:** *— У творах паяўляюцца канкрэтныя прозвішчы людзей. Чаму Вы рашылі іх памясціць у вершах?*

**М.Л.:** — Мы тут ужо гаварылі пра пана Яна Целушэцкага з Новага Ляўкова. У вершах выступае яшчэ Мішка з Махнатага. Ён зараз жыве ў Сопаце, гэта наш карэспандэнт. Ён адразу здагадаўся, што верш пра яго. Ёсць таксама дзядзька Мікола Лук'янюк з Бялкоў. Чаму яны ў вершах? Гэта такая творчая задума. Гэтыя людзі важныя для нашай глыбінкі.

**З.В.:** *— На вокладцы зборніка «Жывінкі з глыбінкі» ёсць заяўка, якая інфармуе, што «працяг будзе». Ці гэта праўда?*

**М.Л.:** — Усё залежыць ад грошай. Цана зборніка атрымалася вялікай, таму што ён на крэйдавай паперы, у цвёрдай вокладцы, ёсць там колеры. На сённяшні дзень у нас няма такіх немалых грошай.

**З.В.:** *— Мы прыдумалі тэму чарговага верша: «Рыбы з Рыбалаў». Ці гэта добрая ідэя?*

**М.Л.:** — Ідэя неблагая. Можа, давайце паспрабуем супольна напісаць такі верш...

***Рыбы з Рыбалаў***

*Кажуць, рыбы не гавораць,*
*ды скуль хто пра гэта знае?*
*Рыба ж у рэчцы або моры —*
*там па-свойму прамаўляе.*
*Вымеш рыбу з асяроддзя —*
*толькі зяпае, нябога.*
*Чом такая слава ходзіць:*
*мовы не дастала ў Бога?*
*А той немка, хто не ўмее*
*ў роднай мове сказаць слова.*
*З выбару такі нямее.*
*Ён — не зерне, а палова!*

**Міра ЛУКША**

*Інтэрв'ю апрацавала*
***Оля БУСЛОЎСКАЯ***

***PS.** Верш, аднак, вокамгненна прыдумала сама паэтэса!*

## Вершы Віктара Шведа



### Пашыраецца і курчыцца

Настаўнік тлумачыў гэтак:
— Летам шырацца прадметы,
А курчацца зімою.
Хто пацвердзіць такое?

Адказ быў вучня Сашы:
— Летам канікулы нашы
Даўжэйшы за зімовыя —
Сцвярджэнне талковае.

### Танцы

Беластоцкі позні вечар,
Танцавальная сустрэча.
На паркеце ў разгары
Кружыць маладзёва пара.

— Ты танцуеш так цудоўна.
— І ты, адкажу даслоўна.
— А завуць мяне Адамам,
— І мяне завуць таксама.

## Польска-беларуская крыжаванка № 32-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 28:**

Лета, сваяк, на, стол, стыль, як, там, фа, конус, іл, ом, як, Астап, кола. Язда, лянок, кот, стома, стан, стымул, вол, шаль, фіял, скакалка.

Узнагароду, набор здымкаў з Мірскага замка, выйграла **Сара Скаўронская** з Беластока. Віншуем!

Huta, Poszukiwanie, Klepisko, Nasz, Trzy, Honor, Szyfr, Data, Kosmita, Dusza, Ara, Wieloryb, Ob, Ha!, Ratusz, Ada, Tak, Rogi, Alarm dzwonem

# Дзявятая актава культур




**Цэнтр Беластока зноў заквітнеў народнымі строямі і музыкай. Ад 26 да 31 ліпеня ў Беластоку і ў ваяводстве расспяваліся і растанцаваліся больш за паўтысячы гасцей з 12 краін свету. Фестываль «Падляшская актава культур» кожны год збірае ў Беластоку музычныя гукі, характэрныя для культур з усяго свету. Сёлета няйначай — Падляшша прыняло калектывы з такіх краін, як Сербія, Румынія, Кіпр, Харватыя, Расія, Украіна, Марока, Беларусь, Славакія, Венгрыя, Італія і Адыгея. Польшчу таксама прадставілі адборныя фальклорныя і фолькавыя ансамблі.**

Хоць фестываль, натуральна, пашыраецца і запрашае каманды з аддаленых куткоў свету, але яго бясспрэчнай перавагай з'яўляецца паказ з дапамогай музыкі, танца і мастацтва культурнай разнастайнасці Падляшша. Кожны год тутэйшыя гледачы, турысты і ўдзельнікі фестывалю знаёмяцца з тым, што ў нас самае прыгожае і каштоўнае, — адзначаў дырэктар фестывалю Анджэй Дырдал. — Сёлета ўпершыню ўдалося трансляваць жывыя канцэрты з усёй Падляшскай актавы культур, якія адбыліся на галоўнай сцэне фестывалю, на Рынку Касцюшкі. Такім чынам, фестывальнымі выступленнямі можна пазахапляцца ў любым пункце свету!

Дзявяты выпуск Міжнароднага фестывалю музыкі, мастацтва і фальклору «Падляшская актава культур» пачаўся ў аўторак, 26 ліпеня. Як і кожны год, адкрыў яго парад усіх груп, якія выступілі на мерапрыемстве ў Беластоку і на Падляшшы. 24 фальклорныя і фолькавыя калектывы — інструментальныя, песні і танца былі прадстаўлены ў 21 мясцовасці рэгіёна. Упершыню пазнаёміліся мы з групамі з Марока, Кіпра і Румыніі. Сёлета фальклор спалучыўся з фолькам яшчэ больш, паказваючы праект Тымона Тыманскага і Кшыштафа Трэбуні-Туткі.

— Гэта свята разнастайнасці, адкрытасці, свята культуры, — сказаў дырэктар Ваяводскага цэнтра анімацыі культуры, арганізатара фэсту, Цэзары Мелька. — Ідэяй фестывалю з'яўляецца прэзентацыя культур і здабыткаў мастацкіх калектываў з Польшчы і з замежжа, якія ствараюць розныя жанры музыкі і мастацтва са спасылкай на фальклор. Поспех мерапрыемства з'яўляецца таксама вынікам рэгіянальнага і міжнароднага супрацоўніцтва яго ўдзельнікаў — мясцовых самаўрадаў, установ, грамадскіх арганізацый, спонсараў і мастакоў, якое пастаянна пашыраецца. Гэтае супрацоўніцтва адначасова спрыяе павышэнню прывабнасці рэгіёна сярод яго жыхароў, а таксама шматлікіх турыстаў.

Як сказаў мастацкі кіраўнік фестывалю Анджэй Дырдал, мастакі былі адабраны з больш чым 60 заяў. Пры адборы рабілася стаўка на якасць і разнастайнасць:

— Мастацкі ўзровень усіх выступоўцаў вельмі добры. Асабліва лепшыя прадстаўленні спявацкіх і танцавальных калектываў з Расіі, Украіны і Беларусі. На актаве хочаць выступіць найлепшыя вядомыя калектывы і выканаўцы. Тым не менш, мы павінны зрабіць выбар і шмат каму адмовілі. Гэта флагманскае мерапрыемства ВААК, імпазантнае і разнастайнае. Можна пазнаёміцца таксама з калектывамі, якія спасылаюцца на народныя кліматы, у сённяшні час вельмі папулярныя, як **«Tęgie Chłopy»**, **«Kapela Maliszów»** ці **«Janusz Prusinowski Kompania»**, ці паслухаць беластоцкую каманду «Бялка», якая спалучае ў праекце «Бабука» ромскія песні з электронікай.

Апрача канцэртаў шмат зацікаўленых асоб збіралі майстар-класы па традыцыйных танцах з Польшчы і Украіны, а таксама сустрэчы з мастакамі.

Напярэдадні адкрыцця фестывалю быў паказаны дакументальны фільм пра кампазітара Караля Шымаsucceeded.






украінскія творцы. Паказана ў ім сярод іншага Тымашоўка ва Украіне — родная мясцовасць кампазітара. Пасля паказу фільма прадстаўлены былі традыцыйныя ўкраінскія песні калектыву «Мліночок», які прымаў удзел у фільме. Група прадставіла праграму «Песні з Тымашоўкі».

За два дні да афіцыйнага пачатку Актавы культур можна было на скверы па вуліцы Легіяновай пабачыць незвычайную ўстаноўку: керамічны ходнік, натхнёны народнай тканінай, пад загалоўкам «Культура на тратуары». Яго аўтаркай з'яўляецца маладая беластоцкая мастачка, стыпендыятка Маршалкоўскай управы Падляшскага ваяводства Паўліна Горба.

У Беластоку і іншых мясцовасцях Падляшша (Белавежы, Бельску-Падляшскім, Цеханоўцы, Ганёндзы, Шэпятове, Ломжы, Харошчы, Замбраве, Гайнаўцы, Моньках, Граеве, Крыпне, Сувалках, Заблудаве, Карыціне, Супраслі, Чорнай-Беластоцкай, Дабжыневе, Саколцы, Нараўцы і Гарадку) выступілі калектывы «Вялікі слабажанскі калектыў песні і танца (Харкаў, Украіна), **«Kapela Maliszów»** (Мэнціна-Мала, Польшча), «Chigaga Group» (Мхамід, Марока), «Fili Camarasului» (Клуж, Румынія), «Grupрo Folklorico di Cagliari Quartiere Villanova» (Кальяры, Італія), Тыман Тыманскі і Кшыштаф Трэбуня-Тутка (Закапанэ, Польшча), «Вэснянка» (Роўна, Украіна), «Janusz Prusinowski Kompania» (Мазавецкае, Польшча), **«Batsányi Táncegyüttes»** (Тапольца, Венгрыя), «Klumpe» і **«Vyèiai»** (Пунск, Польшча), **«Tęgie Chłopy»** (Кялеччына, Польшча), «Turopolje» (Веліка-Горыца, Харватыя), **«Čači Vorba»** (Люблін, Польшча), украінскі калектыў «Ранок» (Бельск-Падляшскі, Польшча), «Igem Folk Dance Groop» (Паўночны Кіпр), «**Vargovčan**» (Ганушоўцы, Славакія), «Kud Nova Varos Serbia» (Нова Варош, Сербія), «Oshad» (Майкоп, Адыгея), «Stowarzyszenie Polonia Kirowograd» (Кіраваград, Украіна), **«Šviesa»** (Літва), **«Białka»** (Беласток). З Беларусі выступілі польскія «Chabry» (Гродна), «Лілея» (Мінск) і «Ніва» (Верцялішкі).

Што цікава, калектывы з Беларусі, хіба найбольш чаканыя ў беларускім Падляшшы, высылаліся на выступы «ў Польшчу», а сюды з танцамі і спевамі арганізатары адправілі нетутэйшую экзотыку. Дарэчы, сёлета ў Актаве была выразная стаўка на ўкраінскасць — прыехалі чатыры калектывы. З вялікім канцэртам у першы дзень фэсту выступіў ансамбль «Ранок» з Бельска-Падляшскага, якім апякуецца Саюз украінцаў Падляшша. Ні адзін беларускі калектыў з Падляшша сёлета «не меў чаго» прадставіць прагнай шматкультурнасці публіцы.

Беларусь прадстаўлялі тры ансамблі. **«Chabry»** (кіраўнік Людміла Войкель) — польскі ансамбль народнай песні і танца з Гродна, створаны ў 1996 годзе для падтрымання традыцыі і народных звычаяў. Група мае ў рэпертуары песні і танцы з розных рэгіёнаў Польшчы, польскія папулярныя бяседныя песні, польскія і беларускія народныя танцы і песні, дае шматлікія выступленні ў Беларусі, часта таксама наведвае Польшчу. Мінская **«Лілея»** (мастацкі кіраўнік Яўген Гладкоў, канцэртмайстар Марыя Абаева) — студэнцкі канцэртны гурт цымбалістаў, заснаваны ў 1966 годзе ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ў Мінску. Выступаюць у ім выключна студэнты акадэміі. Рэпертуар групы складаецца з твораў беларускіх і заходніх кампазітараў і іх уласныя аранжыроўкі народных мелодый Беларусі і іншых краін. «Лілея» выступала ў Нямеччыне, Швейцарыі і Славакіі, была таксама ўдзельніцай «Падляшскай актавы культур» у 2011 годзе. Сёлета яна адзначае 50-годзе з дня заснавання. Цёзка нашай «Нівы» «**Ніва**» з Верцялішак (мастацкі кіраўнік Ларыса Прасвірына) прадстаўляе беларускія народныя песні, танцы і музыку. Складаецца з харавой, танцавальнай і інструментальнай груп. У інструментарыі мае, сярод іншага, баян і цымбалы. «Ніва» выступала ў Беларусі і за мяжой, наведала, напрыклад, Бельгію, Грэцыю і Нямеччыну.

— Верцялішкі — аграгарадок у Гродзенскім раёне, — інфармаваў балетмайстар групы. — Мы заслужаны калектыў Рэспублікі Беларусь. Працуем 45 гадоў, сёлета адзначаем юбілей!

— А мы — беластоцкі тыднёвік беларусаў «Ніва», нам — шэсцьдзясят! — і ўсе трыццаць тры чалавекі яшчэ перад каляровым гучным парадам ад кафедры на рынак Касцюшкі праспявалі нам многія леты.

Ларыса Уладзіміраўна Прасвірына:

— Працуем пры Верцялішскім цэнтры культуры. Тут усе маладыя. Але ў нашым калектыве тры этапы. У харавой групе — сябры сярэдняга ўзросту. Моладзь у нас, вядома, жвавая, яна і выступае ў танцавальнай групе. А інструментальная група — зборная, там усе рознага ўзросту. А з вашай «Нівай» мы сугучныя, што асабліва нам прыемна. Таксама спяваеце?

— Спяваем! Можна было б і з сяброў нашай беластоцкай «Нівы» скласці ансамбль!

Падляшская актава культур была дафінансаваная са сродкаў Маршалоўскай управы Падляшскага ваяводства і горада Беластока. «Ніва» была адным з медыйных патронраў мерапрыемства.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**


■ Ружанасток

# За Дубровай

Будучы на Яна ў Сідэрцы ўбачыў я там расклад набажэнстваў Ячніцкага прыхода. Пад датай 26 ліпеня значылася там Свята Ячна. Рашыў я пабачыць, як тое свята выглядае.

З поезда злез на прыпынку Ружанасток. Гэты прыпынак мяняецца з кожным маім туды прыбыццём. Вось яшчэ нейкі год таму было там усё расчышчана пасля колішняй невялікай закінутай мураванай пачакальні. А зараз там паявілася сціпленькая паветка з лавачкай для чакаючых цягніка пасажыраў. Вельмі ж аператыўна загадчыкі чыгуначнай інфраструктуры падумалі пра тамашніх пасажыраў. Ах, калі б так аператыўна яны падумалі пра тых пасажыраў, што хацелі б чакаць цягніка на прыпынках Галоўкі, Райск, Падбелле, Рыгораўцы, Сухавольцы, Баравікі... Але можа да канца свету надумаюцца...

У палі, што паміж Ячнам і Ружанастокам, вядуць дзве паралельныя дарогі з абедзвюх названых мясцовасцей, аднак яны з сабою не сходзяцца. Ад аднае да другое можна прайсці ў адным месцы па часткова заараной мяжы, што ў росны ранак раўназначнае хаджэнню па вадзе.

У Ячна з'явіўся я ў дзевяць раніцы, але ніякіх прымет свята не было там відаць. Двое людзей ішло акурат у царкву; падаўся туды і я. У храме было каля трыццаці дзяцей і каля дваццаці дарослых. Гэтая карціна магла б узрадаваць, калі б дзеці былі мясцовыя, аднак гэта былі дзеці звонку, якія праводзілі ў Ячне два тыдні царкоўнага летніка.

Ячніцкая царква прыгожа выглядае здалёк, калі яе аб'ёмістыя сінія купалы выдатна ўзбагачаюць тамашні краявід; гэтак жа ўзбагачаюць даляглад і вежы ружанастоцкага касцёла. І ўсярэдзіне царква выглядае вельмі сімпатычна. Тут таксама відаць выклікане дэмаграфіяй набліжэнне царкоўнага інтэр'ера да касцельнага: з кожнага боку нефа па тры лаўкі фронтам да алтара ды яшчэ і лаўкі пад сценамі. Але найбольшае ўражанне зрабілі на мяне пеўчыя, бо, для прыкладу, „Трысвятое" ў іх выкананні магло б быць аздобай цалкам патрабавальнага канцэрта царкоўнай музыкі.

У кароткай пропаведзі настаяцель сказаў пра адзначанае свята. Менавіта 26 ліпеня 1944 года скончылася ў Ячне вайна і настаў значна менш трывожны час. Закончэнне вайны прынесла вялікую палёгку насельніцтву і жыхары Ячна рашылі штогадова азначаць гэтую падзею адмысловым набажэнствам.

Фрагменты зводкі Савецкага інфармацыйнага бюро пра баі 2 Беларускага фронту ад 25 ліпеня 1944 года: „50 армия в 7.00 24.7 перешла в наступление и, преодолевая сопротивление и контратаки противника, полностью овладела южной частью Гродно и к 19.00 вела бой на рубеже восточнее Дульковщизна, Рогожин, восточная окраина Конюшки, колхоз Голяки, северная окраина Ягинты, Рогачи, Прокоповиче, Санники, Каролин, Добровольщизна, 2 километра юго-западнее Чеховщизна. 49 армия, отбивая контратаки противника, к 19.00 вышла на рубеж Коробчице (10 километров юго-западнее Гродно), Клочки, Кузница, Сокулка, Липина". Ад 26 ліпеня: „50 армия, сбивая усиленные отряды прикрытия противника, продвинулась за день на 3-16 километра и вышла к реке Сидра на участке Липск, Хильмоны, северная окраина Сидра. Части армии готовились к форсированию реки. 49 армия, продвинувшись на 2-12 километра, вела бой за Сидра, Маковляны, Поганица и овладела Соколяны, Красьняны, кол. Курылы, Яновщизна". Ад 27 ліпеня: „50 армия частью сил форсировала реку Сидра и на западном берегу овладела населенными пунктами Ялово, Ячно. Части армии вели бой на рубеже северо-восточной окраине Шушалево, восточной окраине Кропивна, восточной окраине Острово, северо-восточной окраине Герасимовиче, Ячно, 1 километр восточнее Ружанасток, восточной окраине Гжебене, Шостаки, восточная опушка рощи южнее Шостаки". Ад 28 ліпеня: „3 армия, продвинувшись на 6-13 километра, овладела городом Белосток и к исходу дня 27.7 вела бой на рубеже Запецки, Вулька-Ратовецка, Чарны Блок, Васильково, Завады, Слобода, Городняны, Грыневичи, Левицке, Юхновец Дольний, Бели, Золотники". Быў час, калі змаганне за Беласток закончылася 27 ліпеня, але зараз, здаецца, гэтая дата еўрапеізавана на 8 мая, а магчымая ж яшчэ і поўная глабалізацыя на 2 верасня... Ячна ж яшчэ святкуе паводле старога стылю...


■ Крыж у Хільмонах з 1851 года





Набажэнства закончылася і перада мною асталося шмат часу, які я вырашыў прысвяціць разведцы наваколля, падаючыся на ўсход ад Ячна, за рэчку Сідру. Калісь на гэтай рэчцы была даволі прыстойная кладка паміж Гарасімавічамі і Хільмонамі, але дайшлі да мяне чуткі, што тую кладку спалілі гарасімавіцкія жанчыны, каб перашкодзіць вандроўкам іхніх мужчын у хільмонаўскую краму. Чуткі чуткамі, але ж выпала нагода праверыць, ці сапраўды шырокая кладка на жалезным каркасе канула ў Сідру...

Падаўся я ў Гарасімавічы. У летні спякотны дзень складана пабачыць каго-небудзь на вуліцы. Але пашанцавала мне пабачыць адносна маладога мужчыну, які выкошваў газон перад сваёй хатай. Ад яго я даведаўся, што кладка ёсць; каб на яе дабрацца, трэба выйсці каля паўкіламетра за Гарасімавічы і там уздоўж рова ёсць да яе дарожка. Тая кладка мела вывесці сама на канец Хільмонаў.

— Я ў мінулым годзе яшчэ па ёй прайшоў, але не ведаю, ці сёлета гэта магчымае, — асцярог мяне.

Ну, добра, падумаў я — калі не ўдасца дабрацца ў Хільмоны, на правы бераг Сідры, дык не бязлюдна ж і на левым беразе. Да таго ж Сідра гэта не Амазонка з піранямі ці Замбезі з кракадзіламі, можа нейкі брод удасца знайсці...

Пайшоў я па падказанай мне дарозе і выйшаў на кладку. Кладка з шасці даволі гнуткіх прыстарэлых жэрдак. А парэнчы толькі ад берагоў — пасярэдзіне тры метры хісткай кладкі без парэнчаў... Не хацелася мне адступаць і я вырашыў рызыкнуць. Удалося. Калі з боку Гарасімавіч амаль да самой кладкі была паджвіраваная ўезджаная цяглавым транспартам дарожка, то ўжо ў бок Хільмонаў ледзь значылася адно зарослая даўнейшая веласіпедная сцежка... Варта тут яшчэ дадаць, што сенажаці ў пойме Сідры не запушчаны, як у наваколлі Белавежскай пушчы; тамашнія жывёлаводы рупліва здабываюць корм сваім красулям.

Перад адной з хат у засені яблыні сядзелі на лавачцы два мужчыны — аднаму на выгляд было восемдзесят, другому — напалову менш. Калі я спытаў, што яны чулі пра „Ніву", малодшы адказаў, што гэта, мабыць, нейкі самаход, затое старэйшы сказаў пра газету... Спытаў я іх пра кладкі на Сідры. Сапраўды, аднае ўжо няма, была яна на рэйкавым каркасе, які зараз праваліўся ў раку. Быў там нават план пабудаваць мост між Хільмонамі і Гарасімавічамі, але некаторым гаспадарам быў ён не па думцы, бо абмяжоўваў бы іх сенажаці. А тую кладку, па якой я шчасліва перабраўся ў Хільмоны, пабудавалі жыхары паўночнага канца вёскі, бо па ёй было ім зручна ездзіць у Дуброву.

— Я ўжо не асмеліўся б ступіць на тую кладку, — прызнаўся малодшы мужчына.

У ходзе навучальнага года гімбус забірае з Хільмонаў трое дзяцей. Быў час, калі можна было на школьны аўтобус забірацца і дарослым, але зараз гэта забаронена. А публічны транспарт рэдкі ды і да яго трэба дабірацца аж у адлеглыя каля пяці кіламетраў Бянёўцы.

Затрымаўся я крыху ў краме. У шмат якіх мясцовасцях нашай часткі Беласточчыны ў вясковых крамах млява, але нельга гэтага сказаць пра Хільмоны. Тут багаты выбар тавару, увесь час рух, у чым, як мне здаецца, заслуга энергічнай і ветлівай камерсанткі Ірэны Ганчарук. Не дзіва тады, што крама мае поспех, які ў пэўнай меры спрычыніўся да ўзнікнення легенды пра спаленне на Сідры кладкі, якую па абодвух яе баках называлі мостам.

З Хільмонаў прамая дарога ў Бобру-Вялікую, дзе калісь быў абшырны маёнтак, на месцы якога ў час камуны быў заснаваны пэгеэр. Для яго работнікаў былі пабудаваны чатыры трохпавярховыя блокі. Адзін з іх жыхары абклалі тэрмаізаляцыяй, а тры апошнія карыстаюцца глабальным пацяпленнем клімату; такая вось тут глабалізацыя...

За былым дворскім паркам вадаём на Бобры, які да нядаўна ўтрымоўвала драўляная запруда, пабудаваная яшчэ ў панскі час; так было яшчэ бадай чатыры гады таму, калі я быў туды трапіў. Тады ўжо гідролагі размяркоўвалі падмену старой запруды новай. Цяпер ужо там зусім новы краявід з абкладзенай бетонам дамбай, па якой гладзенькая асфальтоўка, якая і канчаецца зараз за запрудай — далей тры грунтовыя дарогі веерам... Ніжэй запруды астаўся стары будынак старога млына. Навокал яго ў балотнай пойме ракі раней раслі мажныя волькі, па якіх ужо няма і следу...

Калі я нядаўна прайшоўся па колішніх, цяпер запушчаных сенажацях недалёка Буга, накінуліся на мяне з крыкам жураўлі. І тут, на Бобры, калі я падыходзіў да дамбы, крык узнялі іншыя птушкі — крачкі, прысеўшы на дарожным знаку перад пешаходнай зебрай. Не ведаю, чаму яны так гнеўна да мяне паставіліся. Магчыма, што грунтоўны рамонт вадаёма разрушыў іх гнёзды і так іх растрывожыў, што яны паяўленне двухногай істоты ўспрымаюць з найбольшай злосцю. Магчыма таксама, што свае адносіны да чалавечага роду выявілі яны менавіта на людскія выявы, што на згаданым знаку...

Падаўся я ў Ягінты, спадзеючыся нешта цікавае пабачыць. На памяркоўна плоскай тэрыторыі дбайна абсеяныя палі, а за вёскай, дзе калісь пралягала дарога ў Гродна, прылеглая перасечаная мясцовасць. У апісанні Навадворскай парафіі з 1784 года ёсць згадка пра дарогу ў Ягінты: „Droga z Nowegodworu do Jagintów na północ idzie zła bardzo górzysta i kamienista; o kilka staj od miasta w prawo dróżka poszła do Rohaczow przez gaj wielki rohaczewski, który przejechawszy w dolinie nad błotami leżą Rohacze". Зараз Рагачы рассечаны дзяржаўнай мяжой, а між Ягінтамі і Новым Дваром гладзенькая новая асфальтоўка.

Яшчэ цікавая згадка пра навадворскае мінулае з манаграфіі ксяндза Юзафа Ліпінскага з 1928 года, дзе падаецца генезіс папулярнай пагаворкі: „W samym mieście Nowym Dworze był dawniej kościół unicki. W roku 1850 parafia i kościół zostały przez rząd rosyjski obrócone na prawosławie. Obecnie parafia prawosławna nie istnieje, a z kościoła unickiego przerobionego na cerkiew stoją tylko drewniane ściany bez dachu i wieży. Ostatni proboszcz unicki ks. Jan Zukilewicz przez kilkanaście lat opierał się władzy rosyjskiej, nawracającej go na prawosławie. Odjęto mu parafię i tym pozbawiono go środków do życia. Jednak łzy żony i córek jego złamały dobrą wiarę, co sam oświadczył wobec parafian na pierwszym prawosławnym kazaniu, «że czynię to nie dla Jezusa, ale dla chleba kusa»".

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**

# Орля вачыма солтыса

Выказванне **Марка ХМЯЛЕЎСКАГА**, солтыса і арлянскага грамадскага дзеяча.

Як бачу сваю Орлю? Усё робіцца з разгону, але так асфальт, як і брусчатка, непрадумана. Мы расходуем грошы і ўвальваем іх у дарогі і тратуары, а гэта, апрача візуальнага эфекту, не дае ніякага прыбытку. Бо мы, жыхары, нічога з гэтага не маем, толькі выгляд нас цешыць, бо маем лепшую дарогу. Ну, можа менш самаходаў псуецца. Але як выеду за гмінную Орлю і паезджу там па ўхабінах, то той самаход даб'ецца. Усё павінна мець нейкі сэнс.

Робім парк у цэнтры Орлі, выдаем грошы. І што? Зрабілі парк, старыя дрэвы пасярэдзіне і жываплот вакол выкінулі. Атрымалася „патэльня"; і што больш? Нічога. Больш тут нічога не робіцца. А чаму раней не падумаць, што даўней там было гандлёвае месца (стаяла там мноства яўрэйскіх ларкоў, пякарня, пажарнае дэпо — М. М.). Там быў рынак; мы, старыя арляне, па сёння гаворым: „ідзем на рынак". Ёсць старыя здымкі... Трэба было падумаць і ў гэтым месцы паставіць з дзесяць ларкоў уздоўж адмысловай вулачкі і штотыднёва нейкія кірмашы здаровага харчавання, зёлкаў — так, каб гэтае месца бурліла пленэрным жыццём з вясны да восені; зараз гэты абноўлены парк выглядае як нейкае мёртвае месца. Вось 14 ліпеня, мабыць, нейкая моладзь пагнула і панішчыла пяць прыдарожных знакаў вакол парку. А чаму? З нуды. Хачу падкрэсліць, што гэтае месца павінна мець іншае прызначэнне, яно павінна жыць, функцыянаваць. І ўсё так робіцца. Пасля 16-й гадзіны Орля становіцца мястэчкам Твін Пікс і калі падуе вецер, то мне не хапае такіх краявідаў як цераз пустыню лятаюць круглыя кусты.

Тут у цэнтры няма жыцця, забягалаўка закрытая, усе будынкі з паведамленнямі аб продажы. Ну, добра, нядаўна была адкрыта новая спажывецкая крама (на месцы гэесаўскай — М. М.), але людзей не прыбывае, бо гэта не прыцягвае. Дзесь тыя інвестыцыі ёсць, на паперы гэта хораша выглядае, што мы багатая гміна, але мы, як жыхары, бедныя. І заміж пакарыстацца тым, што мы ў ахоўнай (буфернай) зоне Белавежскай пушчы і развіваць нейкі турызм, стварыць нейкую прыцягальную інфраструктуру — каб сюды людзі прыязджалі ці нават часова пасяляліся, то мы — не. Мы чакаем гатовага. Мала гэтага, такая сітуацыя давяла да таго, што мы не хочам замятаць вуліц, чакаем каб нам гміна (войт) „пазаміятала"; такая праўда. Прыязджае прыбіральная машына і замятае. Зладзіў я, як солтыс, „прыбіранне свету" вясною; з'явіліся чатыры асобы, якія прыбралі дарогу за Орляй у напрамку Рудутаў.

Сітуацыя, калі гміна багатая, распускае жыхароў, будуе дамагальніцтва. На сходзе была прапанова пасадзіць кветкі. Мы склікнуліся, каб садзіць кветкі, але людзі настроены на тое, што нехта пасадзіць; а пасля няма каму палоць. Вось на вуліцы 1 Мая вакол дрэў зроблены кружкі для кветак, але пасадзілі нямногія, а апошнія чакаюць каб нехта пасадзіў за іх. Крыху сорамна. Людзі дамагаюцца нечага і я за тое, каб ім даць вуду і няхай самі рыбу ловяць; значыць — дайма насенне кветак і запрапануйма, каб людзі самі пасеялі іх і даглядалі.

Пусты будынак былога асяродка здароўя? У ходзе выбараў солтыса гэта была мая прапанова, каб у ім зладзіць пенсіянерам дом дзённага дагляду. І слава Богу, што падхапіў гэта войт, і гміна, і гэтае робяць, бо мне, як солтысу ці нейкай няўрадавай арганізацыі было б вельмі складана гэта правесці і сфінансаваць. У мясцовай стратэгіі Арлянскай гміны ёсць мова пра такую ўстанову, ёсць адведзены нейкія сродкі. Цяпер спадзяемся што ўсе справы пройдуць у Мясцовай групе дзеяння ды ў Маршалкоўскай управе, якая прызначыць на гэта грошы. Тут не абысціся без нейкай долі бюракратыі, аднак чакаем станоўчага выніку — магу пра гэта заявіць як віцэ-старшыня МГД.

Дом культуры, якога няма? Вядома, што дом культуры патрэбны. Ніхто не аспрэчвае яго патрэбы, аднак аспрэчваем яго (праектаваны) вонкавы выгляд і яго лакалізацыю, бо ніхто не стаўляе на дзевяцi арах установы публічнай прыдатнасці. Бо ўваткнуць цяпер новы будынак паміж дзве развалюхі (старая крама і былы банк) ды закрыць палову сінагогі — гэта непрадуманая ідэя. Мяркую, што праз нейкі час можна будзе купіць будынак банка (гайнаўская кааператыўная) ды тыя ўчасткі; і сэнсоўна было б будоўлю перасунуць у той бок, а нават абжыць будынак банка.

Я рады, што мне, як старшыні сельскагаспадарчага кааператыва, удалося згавару ыцца з войтам пра пабудову невялікага вадаёма ў чатыры-пяць гектараў па мяжы старога саду, які сілкаваўся б вадой са старой рэчкі. Зараз перад намі атрыманне дазволу і апрацаванне праекта.

Як солтыс скажу, што дагэтуль салэцкая рада была пасіўная, а солтыс абмяжоўваўся толькі да збірання падаткаў. А Орля ж мае за сабою гарадское мінулае і я хачу будаваць іншы імідж солтыса. Удалося мне заварухнуць салэцкую раду, збіраемся, абмяркоўваем. Магчымасці нашы абмежаваныя, бо няма салэцкага фонду і не распараджаемся ніякімі сродкамі. Плюсам нашай сітуацыі тое, што мы ў гміннай мясцовасці і я не мушу клапаціцца, напрыклад, пра парадак, бо пра гэта дбае ўправа гміны.

працяг ☞ 11




Амаль адзінаццаць гадоў таму ў нумары ад 30 кастрычніка 2005 года „Ніва" пісала пра сайт літаратурнага часопіса „Архэ". З таго часу віртуальнае прадстаўніцтва выдання ў многім перарасло па значнасці свайго папяровага „старэйшага брата". Калі ў часопісе збольшага ўсё засталося як і раней — артыкулы, публіцыстыка, разважанні і гэтак далей, то яго інтэрнэт-бачына змяніла не толькі адрас, але і выгляд, і змест.

Каб цяпер патрапіць на старонку часопіса „Архэ", якая адначасова з'яўляецца і старонкай аднайменнага выдавецтва, трэба набраць на сваім камп'ютары адрас у інтэрнэце **https://arche.by**. У адрозненні ад выяўлення адзінаццацігадовай даўніны, якое ўяўлялася „цікавым, але ў той жа час сціплым" і мела выйсці ўсяго на тры рубрыкі, цяперашняе прываблівае разнастайнасцю рубрык, стракатасцю аздабленняў, рознымі прапановамі да спампавання электронных кніг і нумароў часопіса.

„Мы будзем народным часопісам — для ўсіх тых, хто хоча жыць па-свойму і гаворыць па-свойму; бо культура — гэта любоў да свайго ладу жыцця. Каб зажыць па-свойму, трэба па-свойму думаць", — прыводзіліся словы заснавальніка „Архэ" Андрэя Дынько на першапачатковым сайце часопіса. На цяперашнім сайце пра нейкі ідэйны базіс часопіса і выдавецтва не згадваецца, што бачыцца як недахоп, які стаў абумоўлены значнай камерцыялізацыяй праекта. Адзінае, што можна пабачыць — гэта літаральна некалькі сказаў пра часопіс у рубрыцы „Пра выдавецтва", але і там не знойдзеш адказу на пытанні, што гэта за „Архэ", чаму і адкуль узялося. „Часопіс ARCHE выдае кнігі ў кааперацыі зь беларускімі і замежнымі выдаўцамі — выдавецтвам „Энцыклапедыкс", „Медысонт", „Беларускае гістарычнае таварыства" (Беласток), „Інстытут беларусістыкі" (Вільня), „Інбелкульт" (Смаленск) і інш.", — піша рэдакцыя выдання, не забываючы згадаць, што падпіска на часопіс прымаецца ва ўсіх аддзяленнях сувязі ў Беларусі.

Цяперашні сайт „Архэ" збольшага падобны на вялікую кнігарню. На ім зроблена ўсё, каб натхніць і заахвоціць інтэрнэт-карыстальніка пералічыць грошы на карысць выдавецтва. Тут і бясплатныя выданні, набыцце якіх можа стаць першым крокам да пакупкі, і рубрыка „Зьніжкі", якая таксама мусіць прыцягнуць увагу „невялікім коштам", і расповед пра тое, што хутка апынецца ў продажы, як невялічкая інтрыга, інспіруючая да магчыма нецярплівага чакання.

У адрозненні ад папярэдняй версіі інтэрнэт-прадстаўніцтва часопіса, цяперашняя мае, у прыватнасці, дзяленне на катэгорыі сваіх выданняў. Прычым гэтае дзяленне даволі падрабязнае і прафесійнае. Сведчаннем гэтаму з'яўляецца пералік галін навук пад назвай „Катэгорыі". Выдавецтва не толькі падзяліла свае выданні па катэгорыях „Гісторыя", „Філялёгія", „Паліталёгія", „Сацыяльныя навукі", „Літаратура і мастацтва", „Крытыка", але і размеркавала іх там па асобных падрубрыках.

Цяпер выданні „Архэ" даступныя не толькі тым, хто „гаворыць па-свойму" — месяцца там кнігі, напісаныя на польскай і рускай мовах, падагульненні па-англійску.

Варта прызнаць, што новы сайт больш функцыянальны ад папярэдняга, але ў той жа час камерцыялізацыя праекта моцна паўплывала на яго ўладальнікаў.

❖ **Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара Дата з Календара

У летапісе айчыннай вайсковай славы

## 510 гадоў з дня бітвы пад Клецкам

5 жніўня 1506 г. гістарычныя летапісы зафіксавалі разгром войскамі Вялікага Княства Літоўскага на чале з Міхалам Глінскім войска Крымскага ханства на чале з Біці і Бурнашом — сынамі Менглі-Гірэя. Клецкая бітва была найбольш значнай паразай татараў на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Яна паклала канец іх буйным набегам за Прыпяць. Хан Менглі-Гірэй пад уражаннем вынікаў бітвы на пэўны час стаў хаўруснікам ВКЛ.

Мэтай татарскага нападу, арганізаванага ханам Менглі-Гірэем, акрамя захопу палонных, маёмасці і жывёлы, быў націск на ўрад Вялікага Княства Літоўскага, каб прымусіць яго адхіліцца ад ганаровага вязня, былога хана Вялікай Арды і смяротнага ворага крымчакоў Шах-Ахмата (забіць яго або выдаць жывым у Крым).

На тэрыторыю Вялікага Княства Літоўскага татары ў колькасці 12 тысяч (паводле іншых звестак ад 4 да 6 тысяч пры 10 тысячах коней) уварваліся ў ліпені. Пад Чарнігавам пераправіліся цераз Дзясну, а пад Лоевам — цераз Дняпро, дайшлі да Слуцка і Клецка, адтуль распускалі загоны на Навагрудак і Ліду. Асобныя іхныя чамбулы (атрады) дасягалі Менска.

Кароль польскі і вялікі князь літоўскі Аляксандр пра татарскі наезд даведаўся ў Лідзе, куды толькі што прыехаў з жонкай Аленай Іванаўнай, дваром і скарбам. Цяжка хворы Аляксандр 27 ліпеня склікаў паспалітае рушэнне, загадаў адвезці яго назад у Вільню, а кіраўніцтва дзяржаўнымі справамі даручыў гетману Станіславу Кішку і маршалку дворнаму Міхалу Глінскаму.

29 ліпеня ў Лідзе сабраліся некаторыя павятовыя харугвы. З панскіх пошт аў і наёмнай конніцы сабралася 6-7-тысячнае войска (пераважна харугвы Гарадзенскага, Навагрудскага і Менскага паветаў, а таксама наёмная кавалерыя, польская гвардыя Аляксандра і нешматлікая артылерыя). Войска некалькі дзён стаяла каля Навагрудка, а 3 жніўня, атрымаўшы інфармацыю ад „языкоў", шпарка рушыла да Клецка. У час маршу было разбіта некалькі дробных татарскіх атрадаў. Па дарозе захварэў Станіслаў Кішка і кіраўніцтва войскам пераняў Міхал Глінскі.

Раніцай 5 жніўня конніца падышла да Клецка і спынілася на левым беразе перад рэчкай Лань, спусціўшыся ніжэй да дарогі ў кірунку Пінска. На супрацьлеглым беразе ракі стаялі падрыхтаваныя да бітвы татары. Наносячы ўдар з паўднёвага захаду, Глінскі разлічваў адрэзаць татарам шляхі да ўцёкаў, прыціснуць іх да водных перашкод і разбіць. Некалькі гадзін ішла перастрэлка. За гэты час войска ВКЛ падрыхтавала дзве гаці, па якіх коннікі пачалі пераправу. Па правай гаці пераправа ішла хутчэй, татары атакавалі правае крыло, нанеслі вялікія страты. Міхал Глінскі прыспешыў рух левага крыла і імклівым ударам конніцы разрэзаў татарскае войска на дзве часткі. Правае крыло таксама перайшло ў наступ. Частка татараў трапіла ў абцугі, іншыя пачалі ўцякаць. Жорсткая бітва скончылася ўцёкамі татараў, шмат іх патанула ў рацэ Цапра. Харугвы Глінскага пайшлі ў пагоню, білі непрыяцеля і бралі палонных каля Капыля, Слуцка, Петрыкава, на ўкраінскіх шляхах — пад Оўручам, Жытомірам. Яшчэ некалькі дзён войска ВКЛ перахоплівала асобныя татарскія атрады, якія вялі пад Клецк палон з навакольных мясцін. Было вызвалена каля 40 тысяч нявольнікаў, якіх татары збіраліся весці ў Крым, узята 30 тысяч коней.

У 1996 годзе на месцы бітвы пад Клецкам быў усталяваны помнік — камень з шыльдай.

❖ **Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Пошукі і знаходкі

# Невядомы фотаздымак ХВЕДАРА ІЛЬЯШЭВІЧА



У пошуках звестак пра дзеячаў Заходняй Беларусі нядаўна натрапіў я на рэдкі фотаздымак, якому ўжо 81 год. На ім сфатаграфаваны вучні 7 класа Віленскай беларускай гімназіі са сваім настаўнікам Хведарам Ільяшэвічам (1910-1948). Ён стаіць на здымку злева. Гэты фотаздымак быў зроблены 7 верасня 1935 года. І сёння друкуецца ўпершыню.

Хведар Ільяшэвіч быў не толькі добрым выкладчыкам у Віленскай беларускай гімназіі, дзе выкладаў родную мову, літаратуру і гісторыю, але і выдатным паэтам, журналістам, грамадскім дзеячам. У Віленскай беларускай гімназіі працаваў да пачатку Другой сусветнай вайны. А потым настаўнік пераехаў з сям'ёй у Беласток.

Падчас вайны Хведар Ільяшэвіч быў старшынёй Беларускага аб'яднання ў Беластоку, адным з арганізатараў беларускага школьніцтва на Беласточчыне, рэдагаваў газету „Новая дарога", чытаў лекцыі на педагагічных курсах для беларускіх настаўнікаў.

У 1944 годзе Хведар Ільяшэвіч планаваў у Беластоку выдаваць лепшыя творы беларускай літаратуры ў серыі „Беларуская народная бібліятэка" і пераклады сусветнай класікі па-беларуску. Але ўсе планы яго так і не ажыццявіліся. Ён загінуў у аўтакатастрофе ў Германіі ў 1948 годзе.

**Сяргей ЧЫГРЫН**

10 ☞ працяг

Абмяркоўвалі мы з радай, што можам уласна зрабіць, аднак нямнога. Пачалі з таго, што зладзілі агульны навагодні Сільвестр пад адкрытым небам, прысутнічала каля двухсот асоб, было вогнішча. Спадзяваліся зрабіць „прыбіранне свету", але не было ахвотных. Значыць, не стае ў нас актыўнасці: патанцаваць ахвотныя ёсць, але каб нешта ад сябе ўнесці — няма. Зараз мы, як салэцкая рада, праводзім праект „Разам можам больш" у рамках праграмы „Działaj Lokalnie", дзе разам з моладдзю хочам зняць невялікі фільм пра Орлю, які прэзентаваў бы нашу мясцовасць і нашае бачанне гісторыі. Хочам адрамантаваць пляцоўку „Пад зялёным дубам", а 31 ліпеня на малой сцэне пры Гмінным асяродку культуры будзе невялікі канцэрт з патанцоўкай.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**




## Адгаданка

| | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | | | | | | 2 | | | | | | | | 3 | | | | | | | | | 4 | | | |
| | | | | | | | 5 | 6 | 7 | 8 | | | | | | | | 9 | | | | | | | | | 10 | |
| 11 | | | 12 | 13 | | | | | | | | 14 | 15 | 16 | | | | 17 | | | | | 18 | | | | | |
| | | | | | | | | | 19 | | | | 20 | | | | | | | | 21 | 22 | | | | 23 | | |
| | 24 | | | | | | | | 25 | | | 26 | 27 | | | | | | 28 | | 29 | 30 | | | | | | 31 |

1. нічога не робіць і разгульна жыве, 2. горад у Бразіліі, найбольшы ў штаце Парана, 3. жаночыя грудзі, 4. 60 мінут, 5. горад на Крыме між Тэгеранам і Патсдамам, 6. сястра сына, 7. паласа ворнай зямлі, 8. партнёрка Адама, 9. зашклёны праём у сцяне, 10. між Ракам і Дзевай, 11. пад вярхом, 12. Віктар, французскі паэт і пісьменнік (1802-1885), 13. частка зямной паверхні, якая... пачынаецца з сотай часткі гектара, 14. літара, на якой ледзь не канчаецца алфавіт, 15. прыстасаванне, дзе распальваюць агонь, 16. малодшы сын Ісаака, 17. з яго брыльянт, 18. дзяржаўная або грамадская сістэма, 19. павінна цвісці ў ліпені, 20. адзінец з лычом, 21. рай за Атлантыкай, 22. частка будынка з чарапіцы, 23. кантынент з Гімалаямі, 24. работа, 25. спартанскі паўвостраў, 26. водар, 27. жоўтакветная балотная расліна (*Caltha*), 28. піка, 29. пахавальны ўбор з белай тканіны... з вельмі мудрай птушкай, 30. стары адзінокі дзік, 31. птушыныя сківіцы.

Адгаданыя словы запісаць у вызначаныя дарожкі, пачынаючы ад поля з лічбай. У светлых палях атрымаецца рашэнне — беларуская пагаворка. **(ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя рашэнні, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 29 нумара**

Душа, Лена, Пенза, Пірэй, рыс, тыл.

Рашэнне: **Адрэзанай лусты не прылепіш**.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Яну Міхалюку** з Чыжоў.

# 07.08 — 13.08

**(22.03. — 20.04.)** Добры месяц! Справы ідуць у добрым напрамку. Дацэньвай нават дробныя поспехі! Трапна ацэніш сітуацыю і не дасі падвесці сябе пад дурнога хату. 6-9.08. хтосьці можа абвінаваціць цябе ў безадказнасці і ненадзейнасці. Сустрэчы, нянудныя і нестамляльныя. Прафесійныя праблемы не будуць цябе турбаваць, справішся з усім. Пільнуй тэрмінаў сустрэч з лекарамі.

**(21.04. — 21.05.)** Не бяры на сябе зашмат амбітных заданняў. Праца не заяц! Карыстайся летам! Магчымыя перашкоды, але і задавальненне з пераадолення іх. Старайся больш быць у кампаніі, асабліва калі шукаеш другой палавінкі. Падтрымай свайго сябру ў змаганні з кепскімі звычкамі. З работы не выходзь перад адбоем! Твой козыр — інтэлігентнасць, кемлівасць і ўмеласць наладжваць кантакты. 6-9.08. могуць паказацца вынікі тваіх кепскіх рашэнняў. З 10.08. не ўключайся ў канфлікты, якія цябе не датычаць.

**(22.05. — 22.06.)** Добры настрой. Але і перспектыва выдаткаў. 6-9.08. можаш быць слабейшым, адчуеш сябе так, як пасля сустрэчы з дарожным катком. 9-13.08. удасца давесці табе да фіналу нейкія важныя намеры. Лепш арганізуй час. З 7.08. (да 18.08.) пільна пераглядай аб'явы аб працы ў прэсе і ў інтэрнэце. Правер стан сваіх нырак.

**(23.06. — 23.07.)** Космас падтрымлівае цябе, таксама ў кантактах. Канчаткова развяжаш праблемы і адчуеш сябе выдатна ва ўласнай скуры. 9.08. удасца табе памірыцца з нават найбольш ярым ворагам. На працы можаш сустрэцца з непрыемнымі сітуацыямі з-за канкурэнтаў 6-9.08.; не дазволь сябе справакаваць! У фінансах новыя інфармацыі, пільнуй, каб цябе не апярэдзілі! 12.08. можа табе прыйсціся заплаціць за памылкі ў мінулым.

**(24.07. — 23.08.)** Гарачыя эмоцыі ў пары. Сонца табе спрыяе. Будзеш задаволены. Але 6-9.08. можа заатакаваць цябе хтосьці, каму даяраеш. Леў з пераломy другой і трэцяй дэкады: шыкуецца табе фантастычная неспадзеўка, можаш справакаваць сябе і ляцець на канец свету. Час летняга адпачынку — але для цябе больш працы, на плюс у фінансах і арганізацыі. І пільнуй свайго здароўя, асабліва ног.

**(24.08. — 23.09.)** Будзь вельмі пільным 6-9.08., канкурэнцыя толькі чакае твайго хісткага кроку! Не бойся рызыкоўных рашэнняў, асабліва 9-12.08. Адпачывай, не спяшайся, абдумвай прыёмы. 6-10.08. напружанні ў парах Дзеў з першай дэкады. У фірме спакойна. Заінвестуй у павышэнне кваліфікацыі — неўзабаве будзе гэта твой козыр. І таксама ў прыўкрашванне сваёй персоны. Купі таксама добры крэм і добра ўклёпвай яго ў твар!

**(24.09. — 23.10.)** Не лянуйся. Маеш шанцы на вялікія поспехі ў гэтае лета! Хаця 6-9.08. штосьці, што здавалася быць лёгкім, можа аказацца занадта складаным для цябе. З 11 (да 16.08.) глядзі, каб з-за сваёй упартасці не праваронíць нейкага шанцу. Вельмі пільнуй тэрмінаў. Калі хочаш кінуць курыць, замест цыгарэты вазьмі ў рукі... кручок і вяжы! Шпацыруй.

**(24.10. — 22.11.)** Будзеш дыктаваць свае правілы. Пашырыш уплывы і здабудзеш шмат прыхільнікаў. Вельмі ўдала на працы, хаця будзеш нервовы. Кінь абжорства! 9-13.08. ажыццяўляй свае планы. Хаця 6-10.08. тое, што здавалася быць трывалым, можа аказацца мімалётным. 9-13.08 не бойся ўрэшце схадзіць да дантыста вырваць свой зуб!

**(23.11. — 22.12.)** Месяц у раз'ездах, але без стомы. Глянь на справы з іншага пункту гледжання, знойдзеш добры выхад. 6-10.08. не бярыся за рашэнні без ведання сітуацыі. 12.08. удасца табе аформіць ва ўстановах ці ў банку ўсё, што толькі хочаш. З 11.08. (да 15.08.) не раскашэльвайся, бо з-за лішняй шчодрасці застанешся без грошай.

**(23.12. — 20.01.)** Праца можа пачакаць! Гуляй, падарожнічай, адпачывай, знаёмся. Але не спячыся на сонцы. Вельмі многа шчаслівых нагод. 9-13.08. — найлепшы момант выбрацца ў падарожжа. З 11.08. (да 15.08.) з-за няўпэўненасці не страць шанцу на каханне.

**(21.01. — 19.02.)** Падарожжы і мілыя сустрэчы. Горача ў пачуццях. Кантралюй выдаткі. Не дай сябе ўвалачы ў канфлікт і не вер ва ўсё, што пачуеш 6-10.08. Сонца аж да 21.08. падыме цябе ў кампанейскім рэйтынгу, але не дурэй, паказваючы іншым, што можаш! Рэгулярна трэніруйся, шпацыруй.

**(20.02. — 21.03.)** З амбітных планаў зашмат не атрымаецца, дык адкладзі далікатныя справы, нялёгкія размовы, рызыкоўныя мерапрыемствы. Паявяцца новыя, цікавыя людзі. Рыба-бізнесмен: не стаў усяго на адну карту! 9-13.08. хутка і дакладна справішся з усімі абавязкамі.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**


Ніва — тыднёвік беларусаў у Польшчы

PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".

**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 000 egz.

# У палескай глыбінцы (50)

Дарога ў сяло Нуйно, куды я імчала на службовай машыне, слалася між лугоў і лясоў, быццам вышываны ручнік. Нуй-но!

Адкуль такі назоў сярод палескіх лясоў і балот? Якая тайна прыхаваная за гэтым дзівосным словам са старадаўніх часоў?

Калі ўвесну першы раз я патрапіла ў гэтую вёску, яна запамяталася як буслiная сталіца. На прыдарожных стаўпах, усюды дзе не глянь, красаваліся гнёзды-буслянкі, у якіх выстойвалі бусліныя пары. Штосьць застаўляла думаць пра чары на цудоўнае пабольшанне сям'і. Пасля я даведалася, што Нуйно — адзінае месца ва Украіне, дзе хлопцы і дзяўчаты з дазволу бацькоў яшчэ да вяселля спалі ў адным ложку. Гэты старажытны абрад называлі тут „гірка". Нярэдка ён вырашаў пра далейшы лёс маладых. Той, хто не хадзіў „на гірку", каго ніхто не выбіраў, каб з ім разам спаць, мог назаўсёды застацца ў дзеўках або кавалерах. Так што трымаць пад замком маладых у каморы не было сэнсу. Дбалі яшчэ, каб яны жаніліся толькі між сабой, у сваім сяле. Наколькі важны быў апошні прынцып, паказвае народны праклён, які кіравалі ў бок маладых дурніц: *Каб ты пайшла замуж у чужое сяло!* Пры тым абрад „гіркі", як нішто, спрыяў сепаратызму і лакальнаму патрыятызму, і гэта па сённяшні дзень адчуваецца ў вёсцы Нуйно. Нягледзячы на пераслед царквы, а пасля цкаванне з боку камуністаў, абрад спраўлялі яшчэ ў 60-я гады XX стагоддзя.

— А зараз няма каму хадзіць „на гіркі", — скажуць з абурэннем мясцовыя старажылкі. — Моладзь надта разбэшчаная, сапсаваная! Не то што калісь!

Мой шафёр, надта прыстойны мужчына, з небывалай лоўкасцю абмінаў дзіры на асфальтавым палатне. Ён таксама расказаў легенду пра пачатак сяла Нуйно:

— Калісь тут знаходзіліся непраходныя балоты. Калі хто чужы заблудзіўся ў гэты бок, ён ледзь жывым выкарасквўся з дрыгвяной пасткі. Не адзін тут утапіўся, згінуў. Мясцовыя таксама мацаваліся з дзікай прыродай. Дзень і ноч ад балота несліся галасы. Людзі паганялі коней, якія з возам застраглі ў балоце і голасна крычалі : „Ну-й! Но! Нуй! Но!". Нібыта, адтуль і назоў. А хто яго ведае, як там на самой справе было. Я яшчэ не сустрэў нікога, каб сэнсоўна патлумачыў значэнне, — засумняваўся шафёр, а я разам з ім. Надта проста ўсё гэта гучала і не трымалася грунту.

— Нуйно надта моцнае сяло, — дадаў шафёр. — Тут заўсёды людзі добра спявалі.

Ці можа быць яшчэ лепшая ацэнка жыццяздольнасці ў палескай глыбінцы? З-за пачутага мая цікавасць спухла ў тры разы. Недарма. Перад будынкам Дома культуры нас ужо выглядалі ветлівыя гаспадынькі. Мяне як „надта важнага" госця прывітала сама спадарыня Кандрацьева. Разам з ёю кіраўніца калектыву „Берагіня" ў вышыванцы Надзея Пятроўна Хымчык. Гэта яна адным сказам вызначыць музычны тэмперамент аднавяскоўцаў: *Нам есты нэ дай, а поспіваты трэба!*

* * *

— І я была ў Польшчы, — заявіла спявачка Надзея Пятроўна.

— А дзе канкрэтна, у якім горадзе?

— У Нараўцы, пры Белавежскай пушчы.

— Не можа быць! Як Вы да нас патрапілі?

— Я сама па адукацыі настаўніца французскай мовы, — кажа Надзея Хымчык. — Мяне запрасілі ў 1997 годзе да вас на працу з дзяцьмі...

Надзея Хымчык на хаду прадставіла свае пявунні ў каляровых, характэрных Валыні, касцюмах. Спяваюць разам ужо паўстагоддзя. Апошняя вестка здалася загадкавай. Нягледзячы на пажылы ўзрост, яны кіпелі энергіяй. У мой бок, быццам чарга з кулямёта, пасыпаліся цікаўныя пытанні. Усе хацелі ведаць хто я, адкуль узялася.

— Ці ваш бацька будзе з Украіны? — дапытваліся.

— Не, ён ніколі не быў за мяжой.


Надзея Пятроўна Хымчык



«Пявучы» фартушок


«Берагіня»

— То можа дзед прыехаў Украіны?

— Дзед таксама ніколі не быў ва Украіне,

— То чаму ў вас прозвішча *Кандратюк?*

Мне хацелася патлумачыць, але было позна. Спадарыня Кандрацьеўна ўзяла мяне пад руку і вяла ўжо ў агромністую залу, дзе адбываўся з'езд кіраўнікоў сельсаветаў. На чырвоных крэслах, быццам у кіно, выседжвала за паўсотні мужыкоў. Абмяркоўвалі пытанне заплаты за малако. Разам з дзелавітым настроем у зале адчувалася перадвыбарчая гарачка. Нехта падняўся на сцэну да мікрафона і абяцаў, што асабіста паклапоціцца пра тое, каб грошы за продаж малака прыходзілі тэрмінова. У адказ замест воплескаў пачуліся крытычныя каментарыі:

— О, які разумны!

Мяне, як „надта важнага" госця, прывіталі гарачымі воплескамі і пасадзілі ў першы радок. Не было выбару, трэба было трымаць фасон.

А пасля на сцэну выйшла „Берагіня" і сэрцайка замерла. Спявалі пра няшчаснае каханне, пра Дняпро, пра казакаў, пра валынскае сяло і добрых, харошых людзей. Паміж песнямі са сцэны гучалі квяцістыя пажаданні, вершы і жарты. Усё было пададзена з сардэчнай, мацярынскай чулліваўцю. Уразіла эмацыйная праўда песень. Палешукі ўмеюць спевам узрушыць да слёз, падняць у іншае вымярэнне душу.

Аднак духовая гасціна, чакала мяне пасля афіцыйнага канцэрта. Пявунні ўжо паспелі пераапранууцца ў квяцістыя блузкі і сукенкі ды ўзгадалі „ягадныя песні". Яны прыпісаныя якраз да перыяду „пятроўкі". Выконвалі іх у лесе, пры супольнай зборцы чарніц, на мелодыі характэрныя палескім вяснянкам і жніўным песням. Спявалі іх лесу, зачараваныя яго чароўнай акустыкай. Тады здавалася, што разам спяваюць усе дрэвы, паветра, ягадкі, кусты. Душа ўзлятала па-над вершаліны сосен, здаравела цела. Ніхто дакладна не памятаў, адкуль пайшоў гэты жаноча-лясны абрад, які сам па сабе напамінаў чароўна-музычную тэрапію. Так было ў Нуйно ад заўсёды, ад дзядоў-прадзедаў.

— Гэтыя песні сам лес выцягваў з душы, — кажа Надзея Пятроўна. — Калі я набліжалася да лесу, адразу пачынала спяваць. І гэта здавалася чымсьці неабходным. Інакш я не ўмела і не хацела...

Лідарка „Берагіні" была апранута ў вышываную кашулю сваёй двавюраднай бабулі Домны, народжанай у 1895 годзе. Вышыла яе на шлюб. Каляровая вышыванка, у пяць колераў — чырвоны, сіні, зялёны, жоўты і чорны, несла магічнае паведамленне: на ёй віднелі сімвалы вернага кахання, здароўя і шчаслівага жыцця. Карацей, на ёй былі птушкі, павернутыя да сябе дзюбкамі, дрэва жыцця, зоркі, месяц і сонца. Кашуля па сваім духу здавалася сугучнай ягадным песням, набрыньлым у чарадзейна-пажадальны змест. Працяглая мелодыя, выспеўваная на галасы з тонкім адчуваннем дэталяў, рэзка павярнула душу з Украіны на знаёмае Палессе. Штосьці такое я магла пачуць толькі ў Нуйно. Вось яшчэ адзін прыклад „ягаднай" лячэбнай песні пра цяжкую долю жанчыны.

Вэжу я лотынь
Мэні ручанькі болят
Прыйду до дом
Мэнэ людэ говор(ат)
Нэхай кажуть
Як у ліэсі на звіра
Бо вжэ й мэні
Головонька болiт
Нэхай кажуть
Як у ліэсі на вовка
Нэшчасная
тай моя головонь(ка)

* * *

Усіх прыкладаў на здольнасці і таленты сяла Нуйно не злічыць, а доказы літаральна сталіся пад нагамі. Вось дубовы паркет у доме культуры, такі самы як на Крамлі. Адкуль такі эксклюзіў на Палессі? Аказалася, што тут спрацавалі адзін выпадак на „Гагатуху" і смачная самагонка...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960